*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 7 (642) 18 ЛЮТАГА 2004 г.**

# 21 лютага - Міжнародны дзень роднай мовы

## СВЯТА РОДНАЙ МОВЫ

***Зварот ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" да грамадзян Беларусі***

**21 лютага ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. Ён усталяваны па ініцыятыве ЮНЕСКА. Мы святкуем яго таму, што родная мова і стаўленне да яе – гэта паказчык маральнасці самага чалавека і яго душы.**

**Родная мова – аснова светаўспрымання: яна ёсць повяззю паміж былым, сучаснасцю і будучыняй. Захаванне роднай мовы садзейнічае ўстойліваму развіццю асобы. Са знікненнем любой мовы мы губляем часцінку нашага агульначалавечага багацця і культурнай разнастайнасці.**

**У нашай краіне склалася трывожная сітуацыя з беларускай мовай. Пры моўна-культурнай экспансіі суседняга народа - у нашым выпадку расейскага - яна фактычна адкінутая на перыферыю і не займае належнага ёй месца мовы тытульнай нацыі. Ад гэтага церпяць іншыя моўныя і культурныя супольнасці Беларусі.**

**У сувязі з Міжнародным святам Таварыства беларускай мовы вітае любыя ініцыятывы грамадзянаў краіны, накіраваныя на абарону мовы тытульнай нацыі, моў і культур этнічных супольнасцяў, што жывуць у Беларусі.**

**Заклікаем усіх, каму мілая матчына мова, ладзіць у гэты дзень выставы, вечарыны, канферэнцыі, алімпіяды, фестывалі, на якіх будзе панаваць родная мова.**

***Прынята на пасяджэнні Рады ТБМ 1 лютага 2004 года.***

*(Пра гісторыю Міжнароднага дня роднай мовы чытайце на ст. 2.)*

## Зварот

### ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" да беларускай моладзі

**Дарагія вучні і будучыя абітурыенты!**

Сёлета ў нашай краіне змяняецца форма здачы выпускных іспытаў за курс сярэдняй школы. Замест чатырох экзаменаў вы будзеце здаваць толькі тры. Першы — абавязковы — у форме тэсту па беларускай альбо рускай мове будзе адначасова і ўступным іспытам.

Мы заклікаем вас, нашчадкаў Францішка Скарыны і Льва Сапегі, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча і Васіля Быкава, зрабіць выбар на карысць беларускай мовы і праверыць свае веды менавіта на ёй. Практыка паказвае, што тыя вучні, якія аддаюць перавагу беларускай мове, здаюць іспыты лепш.

Пакуль будзе гучаць з вашых вуснаў адна з самых прыгожых моваў свету — беларуская, будзе існаваць наш народ і наша незалежная краіна Беларусь.

***Прынята на пасяджэнні Рады ТБМ 1 лютага 2004 г.***

LATVIJAS BALTKRIEVU KULTŪRAS BIEDRĪBA



ЛАТВІЙСКАЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

***СЬВІТАНАК***

Priekšsēdētāja Tatsiana Kazak Slokas ielā 37, Rīga, LV-1007 Старшыня Тацяна Казак

04.02.2004г. № 3

**Мінскі гарвыканкам**
**Старшыні, спадару Міхаілу Паўлаву**

Мы, беларусы, якія жывуць у Латвіі, вельмі занепакоеныя становішчам беларускай мовы на нашай Радзіме. У Латвіі, дзе латышская мова з'яўляецца дзяржаўнай, мы бачым як латышы шануюць, бароняць і захоўваюць сваю мову.

ЛТБК "Сьвітанак" выказвае пратэст супраць беспадстаўнага высялення з памяшкання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, адзінага ў Беларусі таварыства, якое абараняе беларускую мову, выступае за наданне беларускай мове рэальнага статусу дзяржаўнай. Мы звяртаемся з патрабаваннем бестэрмінова падоўжыць ТБМ арэнду памяшкання па вул. Румянцава 13, бо лічым, што дзяржава абавязана дапамагаць арганізацыі, якая абараняе дзяржаўную мову.

Зварот адзінагалосна прыняты на пасяджэнні Рады ЛТБК "Сьвітанак" 03.02.04.

Сябры Рады: Наталля Камілеўская, Вячка Целеш, Станіслаў Клімаў, Тацяна Дробчык, Аляксандр Руткевіч, Яўген Манжос, Тацяна Казак, Валянціна Кліменка.

**Старшыня Латвійскага таварыства беларускай культуры Т. Казак.**

## Закон "Аб мовах..." будзе зменены і дапоўнены

Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
**Нацыянальны цэнтр законапраектнай дзейнасці пры ПрэзідэнцеРэспублікі Беларусь**
220050 г.Мінск, вул. Берсана, 1а
тэл/факс 220-12-25
E-Mail: center@pmrb.gov.by



Администрация Президента Республики Беларусь
**Национальный центр законопроектной деятельности при Президенте Республики Беларусь**
220050 г.Минск, ул. Берсона, 1а
тел/факс 220-12-25
E-Mail: center@pmrb.gov.by

«_6_» __февраля_____ 2004 г. № 04-10/86

**Старшыні ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"**
**Трусаву А. А.**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Нацыянальны цэнтр законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (далей – Цэнтр) разгледзеў Ваш зварот і паведамляе наступнае.

Цэнтр падзяляе заклапочанасць грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" наконт становішча з ужываннем беларускай і рускай моў у Рэспубліцы Беларусь. Між тым неабходна адзначыць, што падрыхтоўка законапраектаў у Рэспубліцы Беларусь ажыццяўляецца на планавай аснове ў адпаведнасці з пунктам 2 Правілаў падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 11 жніўня 2003 г. № 395.

У гэтай сувязі падрыхтоўка праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" плануецца ў 2005 годзе ў адпаведнасці з Праграмай падрыхтоўкі праектаў законаў Рэспублікі Беларусь на 2003-2005 гады і перспектыўнай кадыфікацыі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, адобранай Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 жніўня 2002 г. № 450.

Вашы прапановы па ўдасканальванні прававога рэгулявання ўжывання беларускай і рускай моў у розных сферах грамадскага жыцця будуць улічаны пры падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у адпаведнасці з вышэйназначанай Праграмай.

**Дырэктар Цэнтра І. С. Андрэеў.**

## 210 гадоў з дня народзінаў Яна Баршчэўскага



Сёлета 210 гадоў з дня народзінаў аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Яна Баршчэўскага.

Да пачатку 19 ст. адносяцца яго беларускія дыдактычныя вершы "Дзеванька" і "Гарэліца". Падзеям 1812 г. прысвечаны яго беларускі твор "Рабункі мужыкоў". Галоўны твор польскамоўны "Шляхціц Завальня або Беларусь у фантастычных апавяданнях". Як адзначалі першыя рэцэнзенты, у кожным творы "Шляхціца Завальні" чуваць беларус.

Я. Баршчэўскі, як і Я. Ясінскі, П. Багрым і некаторыя іншыя - адзін з найпершых нацыянальных парасткаў новай Беларусі.

## Замежныя кантакты ТБМ

9 лютага сядзібу ТБМ наведалі высокія замежныя госці са Злучаных Штатаў Амерыкі. Сярод іх былі амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Крол, дырэктар дэмакратычных праграмаў з аддзелу каардынацыі і амерыканскаму садзейнічанню Еўропе і Еўразіі Салі Кунс, дырэктар аддзелу ўкраінскіх, малдаўскіх і беларускіх справаў Еўрапейскага і Еўразійскага бюро Дзярждэпартаменту ЗША Марк Талін. Адбылася зацікаўленая гаворка паміж гасцямі і кіраўніцтвам ТБМ, у ходзе якой выказана інфармацыя аб стане з сядзібай ТБМ і лёсе беларускага гуманітарнага ліцэя. Амерыканскі бок атрымаў падрабязныя адказы на шматлікія пытанні, сярод якіх было яго неразуменне стаўлення ўладаў Беларусі да дзяржаўнай беларускай мовы і перспектываў яе развіцця.

Кіраўніцтва ТБМ у складзе Алега Трусава, Людмілы Дзіцэвіч і Сяржука Кручкова выказалі спадзяванне, што канфлікт з уладамі наконт сядзібы ТБМ з дапамогай айчыннай і замежнай грамадскасці будзе станоўча вырашаны і ТБМ зможа, нарэшце, спакойна працаваць на карысць Беларусі.

***Наш кар.***

## Міжнародны дзень роднай мовы

21-га лютага ўвесь свет адзначае Дзень роднай мовы. Свята праходзіць пад эгідай ЮНЕСКА. Ініцыятыва святкавання Дня роднай мовы сыходзіць ад краіны Бангладэш, якая пяць год таму звярнулася ў ЮНЕСКА з прапановай адзначаць Дзень матчынай мовы. Якія ж вытокі ў свята? Што здарылася ў гэты дзень?

Перадгісторыя падзей 21-га лютага 1952 г. у Бангладэшы была вельмі няпростай. У 1947 г. ад Індыі аддзяліліся тэрыторыі, якія ў асноўным былі заселены мусульманамі. Новая краіна атрымала назву Пакістан. Тэрыторыя краіны мела даволі незвычайны выгляд: яна складалася з дзвюх вельмі аддаленых частак – усходняга Пакістану (сучасны Бангладэш) і заходняга Пакістану (сучасны Пакістан). Краіну лучыла толькі рэлігія і асобныя рэлігійныя дзеячы думалі, што рэлігійнага чынніка будзе дастаткова, каб з'яднаць краіну, а ўсё астатняе не надта важна. І, як заўсёды бывае ў падобнай сітуацыі, першай ахвярай такога здумення стала мова. Большасць насельніцтва Бангладэшу размаўляе на мове бангла, а ў Пакістане пашырана мова урду. Улады Пакістану вырашылі, што ім дастаткова адной мовы, і ў 1952 г. было прынята рашэнне аб наданні мове урду статусу адзінай дзяржаўнай мовы. Гэта значыла фактычную забарону на родную мову бангладэшцаў, якая на той час перажывала пэўны заняпад. Такая сітуацыя магла прывесці да нацыянальнай катастрофы і 21-га лютага 1952 г. тысячы бангладэшцаў выйшлі на вуліцы ў знак пратэсту супраць дыскрымінацыйнай палітыкі пакістанскіх уладаў, якія паводзілі сябе як звычайныя каланізатары. Меры ў адказ з боку ўладаў былі вельмі жорсткія: супраць дэманстрантаў кінулі узброеную паліцыю. Дэманстрацыю гвалтоўна разагналі, і восем студэнтаў былі застрэлены. Пазней забітыя былі прызнаны святымі пакутнікамі за родную мову. Гэтыя падзеі сталі пачаткам барацьбы бангладэшцаў за сваю незалежнасць, якую яны атрымалі ў 1971 г.

Самаахвярнасць дзеля роднай мовы выклікае павагу і можна сцвярджаць, што свята Роднай мовы – гэта маяк аптымізму для многіх народаў, мовы якіх знаходзяцца ў складаным становішчы. Міжнародны дзень роднай мовы дае добрую магчымасць людзям з розных краін зразумець і адчуць багацце і адметнасць кожнай культуры і мовы як сэрца любой культуры.

ЮНЕСКА ў сваёй рэзалюцыі адзначае: свята атрымала прызнанне зважаючы на тое, што папулярызацыя родных моў можа служыць не толькі развіццю моўнай разнастайнасці і шматмоўнай адукацыі, але і лепшаму разуменню моўных і культурных традыцый ва ўсім свеце, а таксама будзе садзейнічаць салідарнасці, заснаванай на ўзаемаразуменні і талерантнасці.

*У. Кошчанка.*

## Працай і воляй адной беларускай жанчыны

***"Прысвячаецца маладому пакаленню - тым, хто прыйдзе на змену нам, каб сваім інтэлектам і духоўнасцю спраўджваць прагрэс Беларусі"***, - з такіх словаў пачынаецца, выйшаўшы з друку 3-ці том падручніка "Курс вышэйшай матэматыкі" на беларускай мове.

Том завяршае фундаментальнае 3-х томнае аўтэнтычнае выданне "Курс вышэйшай матэматыкі" для студэнтаў прыродазнаўчых і тэхнічных вышэйшых навучальных устаноў.

Праца над падручнікам была распачатая больш за дзесяць гадоў таму назад калектывам беларускіх матэматыкаў. У 1994 годзе выйшаў 1-шы том ("Алгебра і геаметрыя. Аналіз функцый адной зменнай."). У 1997 годзе выйшаў 2-гі том ("Функцыі некалькіх зменных. Інтэгральнае злічэнне. Шэрагі."). Аўтары гэтых кніг В. Русак, Л. Шлома (Майсеня), В. Ахраменка, В. Крачкоўскі.

Выхад 3-га тома ("Тэорыя функцый камплекснай зменнай. Аперацыйнае злічэнне.") затрымаўся на цэлых шэсць гадоў, але ўсё такі адбыўся. У гэтага тома толькі адзін аўтар. Давяла справу да канца Людміла Майсеня. І сёння мы можам гаварыць пра гэта, як пра падзею агульнанацыянальнай значнасці.

Падручнік ад самага пачатку задумваўся не як перакладны адкуль-небудзь, а як цалкам арыгінальны, напісаны аўтарамі з беларускай ментальнасцю, на беларускай мове з выкарыстаннем беларускай тэрміналогіі. Напісанне падручніка ішло ў адным рэчышчы з напісаннем "Руска-беларускага матэматычнага слоўніка" (выйшаў у пачатку 90-х) і "Матэматычнай энцыклапедыі" (выйшла ў 2001 годзе). У выніку падручнік, фактычна, замацаваў рэканструяваную і дапасаваную да сучаснага ўзроўню развіцця матэматычнай навукі беларускую матэматычную тэрміналогію. А студэнты ў тых навучальных установах, дзе вышэйшая матэматыка чытаецца па-беларуску, атрымалі грунтоўны дапаможнік, напісаны той жа матэматычнай мовай, на якой чытаюцца лекцыі.

Выданне гэтай кнігі, пры ўліку ўсёй падтрымкі, ёсць перш за ўсё вынік асабістых высілкаў шчырай беларускі, сябра Рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Людмілы Майсені, якая прадаўжае годна несці нацыянальныя традыцыі свайго роду.

*Станіслаў Суднік.*

ЛЮДМІЛА МАЙСЕНЯ

КУРС ВЫШЭЙШАЙ МАТЭМАТЫКІ

# План работы

### Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" на 2004 год

### Прыняты 1.02.2004г. на пасяджэнні Рады ТБМ

| № | Назва мерапрыемства | Тэрмін выканання | Адказны за правядзенне |
|---|---|---|---|
| 1. | Арганізацыя курсаў па культуры беларускай мовы. | студзень- чэрвень, верасень- снежань | сакратарыят, Л. Дзіцэвіч, абл. структуры ТБМ |
| 2. | Удзел у агульнанацыянальным форуме праваабаронцаў. | студзень | Д. Тушынскі |
| 3. | Праца па стварэнні кампутарнай праграмы па кадыфікацыі і праграмы для праверкі арфаграфіі ў руска-беларускіх перакладах. | на працягу года | С. Кручкоў |
| 4. | Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў на "Наша слова", "Новы час" і інш. беларускамоўныя газеты і часопісы. | на працягу года<br>на працягу года | сакратарыят,<br>першасныя суполкі ТБМ |
| 5. | Арганізацыя працы камісіяў ТБМ (праводзіць пасяджэнні 1 раз на месяц). | на працягу года | старшыні камісіяў ТБМ |
| 6. | Асветніцка-педагагічная праца з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у д\с і 1-ыя класы ў 2003-2004 навучальным годзе. | на працягу года | бацькоўскі камітэт, адукацыйная камісія |
| 7. | Супрацоўніцтва з уладнымі структурамі па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Беларусі (№48 ад 27.08.2001 г.) "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі", Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь". Унясенне паправак у "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", каардынацыя сакратарыятам збору подпісаў грамадзян з патрабаваннем адкрыцця беларускамоўных навучальных устаноў. | на працягу года | сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 8. | Супрацоўніцтва з Дзяржстандартам па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларусай мовы ў інструкцыях і на ўпакоўках тавараў, якія маюць абарачэнне на тэрыторыі Беларусі. | на працягу года | сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 9. | Праца з прадпрыемствамі па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выпускаемай прадукцыі. | на працягу года | сакратарыят, рэгіянальныя структуры ТБМ |
| 10. | Правядзенне рэспубліканскага конкурсу "Найлепшы руплівец роднага слова". | на працягу года | абласныя рады ТБМ, Менская гар. рада ТБМ сумесна з СП Беларусі і адпаведнымі аддзеламі адукацыі рэгіёнаў |
| 11. | Правядзенне гістарычных семінараў. | студзень-травень | сакратарыят, Л. Дзіцэвіч, Т. Грузнова |
| 12. | Адзначыць 210-ыя ўгодкі паўстання Тадэвуша Касцюшкі. | на працягу года | сакратарыят, Баранавіцкая арг., Лідская гарадская арг. |
| 13. | Правядзенне семінара "Я магу жыць лепей". | на працягу года | сакратарыят (Л. Дзіцэвіч) |
| 14. | Ушанаванне памяці Васіля Быкава:<br>выдаць кішэнны каляндарык на 2004 год;<br>выдаць плакат;<br>правесці вечарыну да 80-х угодкаў народнага пісьменніка. | <br>студзень<br>чэрвень<br>чэрвень | <br>сакратарыят<br>сакратарыят<br>сакратарыят |
| 15. | Ушанаванне памяці ды святкаванне 90-х угодкаў нараджэння Артура Вольскага. | верасень | сакратарыят |
| 16. | Дзень роднай мовы. Урачыстыя мерапрыемствы. | 21 лютага | У. Кошчанка |
| 17. | Адзначыць юбілейныя даты публікацыямі ў "Нашым слове" і ў "Новым часе":<br>135 гадоў з дня народзінаў Ядвігіна Ш.;<br>90 гадоў Валянціну Таўлаю;<br>140 гадоў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі;<br>85 гадоў з дня заснавання Віленскай беларускай гімназіі;<br>80 гадоў ад пачатку беларусізацыі ў БССР;<br>130 гадоў Аляксандру Уласаву;<br>145 гадоў з дня нараджэння Браніслава Эпімах-Шыпілы;<br>90-годдзе Язэпа Семяжона. | <br>студзень<br>люты<br>сакавік<br>травень<br>ліпень<br>жнівень<br>верасень<br>лістапад | <br>У. Содаль<br>Берасцейскай Рада<br>Маладзечанская гарадская арг.<br>ТБМ Віленскага Краю<br>сакратарыят, Леанід Лыч<br>У. Содаль, М. Лавіцкі<br>сакратарыят<br>сакратарыят разам з СБП |

**ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

# Тры прыступкі да незалежнасці

*Поўная, грунтоўная гісторыя ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі яшчэ не напісаная. Прычын таму шмат, і асноўная тая, што частка яе архіваў знікла ў ваенных мітрэнгах, а частка, што асела ў спецсховішчах былога СССР, была надзейна схаваная ад тых гісторыкаў, якія маглі б іх выкарыстаць. Ды і ўвогуле праўда пра БНР была адной з тых тэмаў, за якую заплацілі жыццямі тысячы нацыянальна свядомых беларускіх дзеячоў. Вось чаму надзвычай важным падаецца выданне ў 1998 годзе Першага тома (у дзвюх кнігах) пад агульнай назвай “Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі”. Яна выдадзена клопатамі (ад укладання, уступнага артыкула, каментароў і аж но да кампутарнага набору і макету) Сяргея Шупы на сродкі ад грамадскай падпіскі, за кошт спадчыны Аляксандра Лашука ды з дапамогай, як пазначана ў кнігах, “Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Беларуска – Амэрыканскага Задзіночаньня, Фундацыі імя П. Крэчэўскага, Беларускага Харытатыўнага Фонду, Скарбніцтва Рады БНР”. З тэкстаў можна вызначыць, якой жа шалёнай хлуснёю ахутанае так званае “супрацоўніцтва” БНР з нямецкімі ўладамі, на якое так часта спасылаюцца і сёння, а таксама адчуць найскладанейшую атмасферу ваеннага часу, калі клопаты не пра ўласныя жыцці, а пра свой народ і ягоную будучыню кіравалі тымі самаахвярнымі беларусамі, што спрычыніліся да аб'яўлення незалежнай краіны. Цікава таксама адзначыць і выснову, якую робіць аўтар уступу С. Шупа аб гадах, якія папярэднічалі абвяшчэнню нашай незалежнасці* “...Найважнейшы ў найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі пэрыяд – адпінак часу паміж 1917 і 1921 гадамі – калі вырашалася пытанне беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці, дагэтуль вызначаўся ў беларускай гістарыяграфіі як “пэрыяд грамадзянскай вайны і замежнай ваеннай інтэрвэнцыі”. Гэтае азначэньне з старых савецкіх навуковых працаў і школьных падручнікаў безь ніякіх зьменаў было перанесенае ў постсавецкія. Ня сталася тут выняткам нават амаль што “ нацыяналістычная” Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. Тым часам у дачыненьні да Беларусі тэрмін “грамадзянская вайна” ўяўляецца надзвычай спрэчным, бо ў разгляданым пэрыядзе не назіралася ніякага адкрытага ваеннага канфлікту паміж паасобнымі часткамі беларускага грамадства. Усе ваенныя дзеяньні на беларускай тэрыторыі таго часу ўяўлялі сабою або міжусобную канфрантацыю староньніх сілаў (Расеі, Нямеччыны, Польшчы – з спарадычнай мабілізацыяй мясцовага насельніцтва), або розныя формы супрацьстаяньня беларускага насельніцтва гэтым чужым сілам. Такім чынам, азначаны вышэй пэрыяд было б больш дарэчна назваць пэрыядам “замежных інтэрвэнцыяў (супраць Беларусі) і барацьбы за незалежнасцьць.”

*Апроч згаданай кнігі, мала дзе можа просты чытач знайсці і поўныя, а не цытаваныя гісторыкамі дакументы, такія, напрыклад, як Устаўныя граматы БНР. Таму сёння мы друкуем гэтыя надзвычай цікавыя, можна ўпэўнена сказаць – лёсавызначальныя для беларускага народу граматы (усяго іх было тры), захоўваючы, як і заўсёды пры рабоце з такімі важнымі дакументамі, і памылкі , і іхні правапіс, які сам ужо ёсць падставаю для лінгвістычных даследаванняў мовы таго, цяпер ужо далёкага ад нас, але незабыўнага для кожнага беларуса часу абвяшчэння нашай незалежасці.*

***Вольга Іпатава.***


ВОЛЬНАЯ Беларусь

Цана асобнаго № 40 кап.

Тыднёвік палітычны і літэратурны.

№ 11. 1918 г. 31-го сакавіка 1918 г. № 11.

Устауная Грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Вольная Беларусь.

Рашучы акт.

Газета “Вольная Беларусь” за 31 сакавіка 1918 г. з тэкстам 3-й Устаўной граматы Рады БНР

## УСТАУНАЯ ГРАМАТА

Да Народау Беларусі

Радзімая старонка наша апынілася у новым цяжкім становішчы. Дзе цяпер уласьць, што тут была, німа ведама. Мы стаімо перад тым, што край наш можа быць заняты нямецкімі вайскамі.

Вы павінны узяць сваю долю у свае уласныя рукі.

Беларускі Народ павінен зьдзейсніць свае права на поунае самавызначэньне. А нацыянальные меньшасьці на нацыянальна – персанальную аутаномію.

Права нацыяу павінно знайсьці свае зьдзейсненьне шляхам скліканьня на дэмакратычных пачатках Установчага Сойму.

Але і да скліканьня Сойму уся улада на Беларусі павінна належаць тым народам, якіе на ей жывуць.

Выканаучы Камітэт Рады Першаго Усебеларускага Зьезду, даданы прэдстаўнікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меньшасцеу, зьдзейсьняючы задання Зьезду, абвешчае сябе тымчасоваю Уладаю на Беларусі, паходзячаю да кіраваньня краям і да найхутчэйшага скліканьня Усебеларускага Установчаго Сойму, на аснові агульнаго, простаго, роунаго, таемнаго і прапарцыянальнаго выбарнаго права, дзеля усяго дарослага насялення, ні рухаючыся з нацыянальнасьцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную уладу краю якая паставіць сабе заданьня абароны і зацьверджаньня здабыткоу рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі Народны Сэкрэтарыят, які з гэтаго дня пачау выпоуняць свае абавязкі. Асабісты склад Сэкрэтарыяту будзе апублікованы потым.

Дана у Менску – Беларускім 21(8) лютаго 1918 року.

Выканаучы Камітэт Рады Усебеларускаго Зьезду.

## УСТАУНАЯ ГРАМАТА ДА НАРОДАУ БЕЛАРУСІ

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцные дзержавы і аслабаняе другіе, абудзілася Беларусь да дзержаунаго жыцця. Пасьля трох съ паловаю вякоу і няволі ізноу на увесь сьвет кажа беларускі народ аб тымъ, што ён жы е і будзе жыць. Вялікі Народны Збор – Усебеларускіі Зьезд 5-17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіу на яе землях рэспубліканскі лад. Выпауняючы волю Зьезду і баронючы дзержауные правы народу, Спауняючы Камітэт Рады Зьезду гетак пастанауляе аб дзержауным устрою Бъларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народау:

1. Беларусь у рубяжох разсялення і лічбеннай перавагі беларускаго народу абвешчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. Осноуные законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установчы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнаго, роунаго, простаго, патаемнаго і прапарцыянальнаго выборчаго права, ні зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Установчы Сойм Беларусі, законадаучая улада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускага Зьезду, дапоуненай предстаунікамі нацыянальных меньшасцяу Беларусі.

4. Спауняючая і адміністратыуная улада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі. Які назначаецца Радаю Зьезду і перадъ ею трымае атвет.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходау, забастовак, хаурусау, безумоуная вольнасьць сумленьня, нізачэпнасьць асобы і памеш(к)ання.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна – пэрсональную аутаномію, абвешчаецца роунае права усіх мовау народау Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля передаецца бяз выкупу тымъ, хто самі на ей працуюць. Лясы, вазеры і нутро зямлі абвешчаюцца уласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі устанауляецца найбольшы 8-і гадзіновы рабочы дзень.

Абвешчаючы усе гэтые правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спауняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнага парадку жыцця у Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсау усіх грамадзян і народау Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоунага люду. А так сама даложым усіх сілау, каб склікаць у найбліжэйшым часі Установчы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноу Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і атветнай нашай працы.

Спауняючы Камитэт Рады 1-го Усебеларускаго Зьезду.

Выдана у Мінску Беларускім 9 сакавіка 1918 року.

*І, нарэшце, мы прыводзім тэкст самай вядомай – трэцяй— Устаўной граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.*

## УСТАУНАЯ ГРАМАТА РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо Расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуу быу Беларусь* ні пытаючыся народу, ен укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускіе.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольна і нізалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежнай і Вольнай Дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобі свайго Установчаго Сойму, пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсці у адносіны з зацікауленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць туюю часьціну Берэсьцейскаго Трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваеваушымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны ( з Гроднай, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігоушчыны і сумежныя часьці суседніх губерняу, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны Устауной Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што усе любячые волю народы дапамогуць беларускаму народу у поунай меры здейсьніць яго палітычна – дзяржауные ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі

Дана у Менску- Беларускім
25 сакавіка 1918 году.





# Пра "дзве вялікія розніцы" і іншае

Часта бывае, што па радыё ці тэлебачанні або проста з чыхсьці вуснаў чуеш якую-небудзь лухту, бязглуздзіцу ці, чытаючы надрукаванае натыкаешся на штосьці неаб'ектыўнае, недарэчнае, выказанае без апоры на факты.

Пра некаторыя абсурдныя маўленчыя агрэхі з абурэннем пісаў Уладзімір Караткевіч у эсэ "Сцюдзёная вясна, або 1000 год і 7 дзён":

"Падумайце аб лёсе песні палескай. Бо вось рукой падаць да Тонежа, а з цеплахода абражае хаты і Прыпяць надрыўна барабанны пошчак і голас (ну, дакладна, як у тым віску): "Гю-ю-юййны". А пасля невялікага перапынку нешта яшчэ:

***Вы слыхали, как поют дрозды?***
***Нет, не те дрозды, не полевые,***
***А лесные, русские дрозды,***
***Певчие избранники России.***

Тут проста ў кожным слове абраза здароваму сэнсу. Нават навуцы аб птушках. Таму што няма ні стэпавых, ні палявых драздоў. Усе – лясныя. А палявы дрозд – такая самая абракадабра, як ледніковы заяц або горны гіпапатам.

Ад паэтаў, вядома, цяжка патрабаваць логікі. Глушэц "шчоўкае" і "скшыжыкае", але ніяк не "плачет со звонами". Гівал (івалга), хоць усё жыццё чакай, не "схоронится в дупло" і не станет "плакать".

Але тут ёсць адна вялікая розніца. Гэта Ясенін, паэзія, і "што вольна ваяводзе, то..."

Паяснім асобныя мясціны з выказвання У. Караткевіча. Страфа пра драздоў – з песні на словы С. Астравога, а ў размове пра глушца і івалгу маюцца на ўвазе наступныя радкі з безназоўнага верша С. Ясеніна: *"Выткался на озере алый цвет зари. На бору со звонами плачут глухари. Плачет где-то иволга, схоронясь в дупло. Только мне не плачется – на душе светло".* А "што вольна ваяводзе, то..." – гэта недагаворавая У. Караткевічам польская прыказка ***"Co wolno wojewodzie, to nie tobie smrodzie".*** Дарэчы, гэтую прыказку сустракаем і ў "Дрыгве" Я. Коласа: " – Я думаю, што ў "дэмакратычнай" панскай Польшчы права судзіць дано ўсім, -іранічна заўважыў Нявідны.

- Што можна ваяводзе, то не тобе, смродзе, так жа спакойна адказаў следчы.

- Дасканалая "дэмакратычная" прыказка, - засмяяўся Нявідны".

***"Адна вялікая розніца"***, - піша У. Караткевіч. А вельмі часта ўжываюць такое трафарэтнае спалучэнне: "Дзве вялікія розніцы". Ды яшчэ з неадменнай дзівацкай дабаўкай... Справа ў тым, што па маскоўскім тэлебачанні ў неадноічы паўторанай праграме з удзелам артыста М. Жванецкага спалучэнне прагучала з дадаткамі *"як кажуць у нас у Адэсе".* Сказанае прынялі за чыстую манету, і цяпер у друку ўжыванне гэтага спалучэння абавязкова суправаджаюць дабаўкай пра Адэсу. Напрыклад, у аповесці І. Навуменкі "Вір" чытаем: "Яго завуць Аляксандрам (а не Грышкам), і гэта, як гавораць у Адэсе, дзве вялікія розніцы". Або ў "Зацемках..." Л. Галубовіча: "Гэта ж дзве вялікія розніцы, як баюць у Адэсе". Але так гаварылі і гавораць не толькі ў Адэсе. Так казаў у 1918 годзе і Мікіта Зносак з Купалавых "Тутэйшых": "Меджду протчым, не раздаю, а прадаю, а гэта вялікія дзве розніцы".

У 1991 годзе пабачыў свет перакладны даведнік З. Санько "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем". Складальнік слоўніка пры падборы фразеалагічных адпаведнікаў не размяжоўвае агульнанародныя, літаратурныя і вузкамясцовыя, дыялектныя выразы. Ён бярэ фразеалагічны матэрыял не з картатэкі, якая шматлікімі прыкладамі пацвярджае жыццё пэўнага выразу ў мове, і не з нарматыўных слоўнікаў, а, як сказана ў прадмове, з запісаў фалькларыстаў, часткова з мастацкай літаратуры, а таксама "ад сваіх бацькоў" і не зважае на тое, ці мае гэты выраз устойлівасць і ўзнаўляльнасць на агульнамоўным узроўні. З прыкладна 870 фразеалагізмаў, вынесеных у загалоўкі, не менш як чацвёртая частка прыпадае на выразы, якім складальнік беспадстаўна надае статус рускага першародства. Адпаведна адмаўляецца існаванне аднолькавага ці блізкага гучаннем беларускага фразеалагізму. Пакажам гэта толькі на адным прыкладзе.

У Я. Купалы ёсць верш "Не ўсе дома", дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня камедыі "Паўлінка" гаворыць: "У Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат". У Я. Коласа знаходзім: "Сам жа рэдактар для іх быў чалавекам, у якога не ўсе дома". Не цураліся агульнанароднага выразу ***"не ўсе дома"*** К. Крапіва, Р. Мурашка, І. Мележ, Р. Барадулін і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове зафіксаваны ўжо ў XVI стагоддзі *(nie wszyscy w domu).* У слоўніку ж З. Санько выраз *"не все дома"* кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор беларускіх эквівалентаў, сярод якіх, зразумела, няма ***"не ўсе дома".*** Выходзіць, і Я. Купала, і Я. Колас памыляліся, калькавалі фразеалагізмы, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Пра гэты небеззаганы даведнік (а ён выдадзены значным тыражом – 30 тысяч экзэмпляраў!) часам пішуць, што *"хоць зроблены ён на аматарскім узроўні, усё ж практычнае яго значэнне вельмі істотнае"* (Роднае слова. 1993, № 10, с. 33). Якраз і бяда, што памылкі слоўніка, набываючы аўтарытэтную моц, укараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага даведніка ўключаецца ў віктарыны (гл., напрыклад, у "Займальнай філалогіі" Дз. Старычонка), выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы. Як ні дзіўна, некаторыя фрагменты занадта вольнага перакладу з даведніка З. Санько перанесены ў трэцяе і чацвёртае выданні акадэмічнага "Руска-беларускага слоўніка" (1991, 1993); напрыклад, ранейшае "семь пятниц на неделе – сем пятніц на тыдні" папоўнена адзінкамі, не падмацаванымі маўленчай практыкай: ***"На адзін дзень сем перамен", "Як увосень: на дзень пагод восем".***

Некалькі слоў яшчэ пра адно прыватнае пытанне.

Часам лічаць, што ў беларусай мове, як і ў рускай ці ўкраінскай, парадак слоў у сказе, або іх размяшчэнне ў пэўнай лінейнай паслядоўнасці, не такі цвёрды, як, напрыклад, у англійскай мове, і што ён амаль што свабодны. Свабода гэтая, аднак, абмежавана мноствам абавязковых правілаў. Таму можна гаварыць толькі пра адносна свабодны парадак слоў. Успомнім у гэтай сувязі выказванне Льва Талстога аб ідэальным "адзіна магчымым парадку адзіна магчымых слоў" або ўрывак з аповесці І. Навуменкі "Замець жаўталісця": *"Не на сваім месцы слова ў сказе – і ад усяго сказа патыхае фальшам. У матэматыцы ад перастановкі складаемых сума не мяняецца, у літаратуры – мяняецца".*

Няўдалы парадак слоў прыводзіць да лагічнай невыразнасці, спараджае двухсэнсавасць. Напрыклад, у вершы для дзяцей чытаем: *"Дом будуе новы кран. Ён асілак-велікан".* Паколькі тут вершаванае маўленне, то яшчэ можна змірыцца з тым, што дзейнік "кран" і дапаўненне "дом" памяняліся месцамі, але ***што*** паясняецца азначэннем ***"новы" – "дом"*** ці ***"кран"***?

Як вядома, дапасаванае азначэнне, выражанае прыметнікам ці іншым атрыбутыўным словам (дзеепрыметнікам, займеннікам, парадкавым лічэбнікам), павінна ставіцца перад паясняльным назоўнікам. Аднак чытаючы мастацкія творы некаторых аўтараў, сустракаем інверсійнае, постпазіцыйнае азначэнне. Звычайна гэта абумоўлена пэўнымі стылістычнымі мэтамі. Так, інверсія выступае як адна з адметнасцяў рамантычнага стылю М. Лынькова, асабліва ў творах, напісаных у ранні перыяд яго творчасці. Напрыклад, у апавяданні "Андрэй Лятун": "Таму на сэрцы толькі сум – аб дарогах пройдзеных, аб пуцях пераезджаных"; у апавяданні "Над Бугам": "Васька ідзе да вёскі пашукаць яек курыных"; у аповесці "Апошні зверыядавец": "Молада, як пахучыя вятры вясновыя, поўныя гулу жыццёвага, пераўзвону палёў і лясоў – пераўзвону птушынага, срэбнага".

Разам з тым можна напаткаць нічым не апраўданыя выпадкі інверсійнага дапасаванага азначэння. Напрыклад, незразумела, чаму Л. Дранько-Майсюк у нядаўна апублікаваным апавяданні "Пра тое, як я з поўдня вяртаўся" паслядоўна дзесяткі разоў ставіць азначэнне пасля назоўніка: *"У самую ноч апошнюю майго адпачынку на поўдні суверэнным страхоцце мне вялікае выпала. Пад вокнамі санаторнымі страляніна ўсчалася, порахам пацягло, венікам салдацкім запахла, а ў калідоры кот кантужаны зусім пявясновому заяўкаў... Ложкам парожнім дзверы падпёр, а сам у матрац паласаты загарнуўся і да ранку ў шафе рыплівай прасядзеў – не задыхнуўся".*

***Іван Лепешаў, прафесар, доктар філалагічных навук.***

# Банкіры загавораць па-беларуску...

Як паведаміў карэспандэнту газеты "Звязда" прэс-сакратар Нацыянальнага банка Беларусі Міхаіл Журавовіч, апошнім часам у галоўную фінансавую ўстанову ўсё часцей пачалі звяртацца грамадзяне, якія заяўляюць аб неабходнасці выкарыстання беларускай мовы пры іх абслугоўванні ў банках. Часам некаторыя нават вядуць гаворку аб тым, што нежаданне фінансістаў выкарыстоўваць родную мову пры іх абслугоўванні ўшчамляе правы пэўнай часткі кліентаў банкаў. У сувязі з гэтым у сваім лісце ад 21 студзеня гэтага года Нацбанк рэкамендаваў банкам пры абслугоўванні грамадзян выкарыстоўваць не толькі рускую, але і беларускую мову.

- Зроблена гэта, -тлумачыць Міхаіл Журавовіч, -у мэтах забеспячэння практычнай роўнасці дзяржаўных моў, рэалізацыі правоў грамадзян на іх выкарыстанне.

Паводле слоў прэс-сакратара, банкам рэкамендавана забяспечыць магчымасць заключэння дагавораў з грамадзянамі не толькі на рускай, але і на беларускай мовах. Акрамя таго, у лісце прапанавана не дапускаць выпадкаў адмовы ў прыёме аформленых на беларускай мове плацёжных інструкцый, чэкавых кніжак і іншых дакументаў, а таксама рыхтаваць на беларускай мове адказы на звароты грамадзян, якія паступілі на беларускай мове, і афармляць рэкламныя і інфармацыйныя матэрыялы на беларускай і рускай мовах.

***Паводле Ігара Шчучэнкі.***

# БТ: "Першы нацыянальны" — якой нацыі, якой нацыянальнасці?

Я даўно не паважаю так званы Першы нацыянальны канал БТ за паслужлівасць уладам і рэдка калі пераключаю на яго сваю "скрыньку". Але навіны хочацца паглядзець, хоць і настроіўшыся крытычна. А тут мне, карэннаму беларусу, як і многім шчырым беларусам, маім землякам, БТ нібы плюнула ў душу: навіны раптам перавялі на расійскую, замежную для нас мову.

Гэта мяне абурыла і я паспрабаваў патэлефанаваць у адміністрацыю БТ, каб выказаць сваю нязгоду. Ні з кім з начальнікаў БТ пагаварыць мне не дазволілі, а далі нумар тэлефона іхняга прэс-цэнтра. Кабета, якая падняла трубку на мой званок, падобна па ўсім, развяла рукамі, сказаўшы ў тым сэнсе, маўляў: "Што мы можам зрабіць? Такі загад".

Такі загад, і што тут зробіш. Русіфікацыя беларусаў працягваецца на дзяржаўным узроўні. Працягвае рабіць сваю гнюсную справу "паўзучае варварства", як пісала нядаўна ў "Народнай волі" вядомая беларуская дзяячка Людміла Грязнова. Нас, беларусаў, зняважаюць, пагарджаючы нашай мовай. Што тады застаецца нам, апляваным? Пляваць у адказ на экран? Дык экран жа не вінаваты, вінаватыя тыя, хто за экранам.

***Уладзімір Аніськовіч, літаратар.***

# "Падвучыся ў школе, баран!"

Тралейбуснае ўпраўленне Магілёва зрабіла падарунак магілёўцам: цяпер прыпынкі абвяшчае дыктар з магнітастужкі на беларускай мове. Добры пачатак, які б пераняць і аўтобуснаму парку. Крыху замінае нейкая манернасць дыктара і яго назолівыя просьбы саступаць месцы цяжарным жанчынам (я ўжо і не помню таго часу, калі даводзілася бачыць цяжарную жанчыну ў тралейбусе). Але беларуская мова цешыць. Таму ахвотней карыстаюся тралейбусам, чым аўтобусамі. Тым болей, што тралейбусы і выглядаюць больш прыстойна, чым перастаркі-аўтобусы.

... У салон заходзяць працiскаюцца пяцёра мужыкоў на падпітку. "Асцярожна, дзверы зачыняюцца, – гучыць магнітагалас, – наступны прыпынак: друкарня".

– А што, еслі я не разумею, что такое "наступны прыпынак", – абураецца адзін з іх, здзекліва націскаючы на гэтае "не разумею".

– Ты што, баран! Беларускага языка не знаеш? Дык сядзь у школу, падвучыся, – абураецца ўдказ другі і заканчвае сваю тыраду густым расейскім матам.

Першы, збянтэжаны такой водпаведдзю, азіраецца на астатніх з кампаніі, але тыя, насмешліва пагдядаючы, відавочна, не збіраюцца яго абараняць і ён заціхае. А мне падумалася, што ніколі расейскі мат не быў так да месца, як зараз. Калі чалавек не хоча чуць роднай мовы, а чапляецца сваім куртатым розумам да расейскай, дык толькі так з ім і размаўляць.

***Міхась Булавацкі.***

***Калектыў кафедры беларускай філалогіі і арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны БДУ Культуры выказваюць шчырыя спачуванні прафесару кафедры, актыўнаму сябру ТБМ Валянціне Сцяпанаўне Варапаевай у сувязі са смерцю мужа Анатоля Рыгоравіча.***

# "Берасцейская лыжка" ў Камянцы

Упершаню ў Берасцейскай вобласці у г. Камянцы з 21 па 25 студзеня 2004 года праводзіўся абласны семінар-практыкум Чыквін У. М. Скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага пединстытута. Цяпер ён свабодны мастак. У. Чыквін сабраў унікавічаў, Аляксандр Лазерка з в. Вісцічы Берасцейскага раёна.

Практычныя заняткі прайшлі ў майстэрні нашага



Разьбяры за работай. Фота Міколы Шума.

майстроў-рэзчыкаў па дрэву "Берасцейская лыжка" Семінар аткрыла намеснік дырэктара абласнога грамадска-культурнага чэнтра Надзея Гіржман, затым выступіла вядучы метадыст па народных прамыслах і рамёствам Ларыса Мікалаеўна Быцко. З лекцыяй па тэме семінару выступіў мастак рэзчык – даследчык Уладзімір Мікалаевіч Чыквін, цяпер пражывае у г. Кобрыне, нарадзіўся ў Высокім, вырас – у в. Дзмітравічы Камянецага раёна, дзе цяпер жывуць яго бацькі. Ён працяглы час працаваў выкладчыкам у Кобрынскай мастацкай навучальні і на мастацкім факультэце Берасцейскага універсітэта.

льную калекцыю драўляных лыжак з розных краін свету: акрамя Беларусі – з Польшчы, Украіны, Славакіі, Літвы і нават ёсць афрыканскія. Цікава распавядае У. Чыквін аб гісторыі драўлянай лыжкі як прадмеце побыту, які меў розныя прызначэнні з даўніх часоў. Увогуле, напачатку з посуду былі лыжка ды міска – апошняя пазней. У. Чыквін ужо па форме лыжкі і па матэрыялу можа распавесці, дзе яна была зроблена. На Віцебшчыне рабілі з ліпы. У нашых краях – з бярозы, альхі, асіны.

На семінар прыехалі майстры – разьбяры: Вячаслаў Дароцька з г. Кобрына, Віталь Чэркас з г. Барана-

камянецкага мастака і разьбяра Анатоля Туркова. Цікава было паслухаць аповяд майстра, патрымаць у руках старадаўнія і сучасныя вырабы з дрэва. У дні работы семінару мясцовыя школы арганізавалі тут урокі па гэтаму віду народнай творчасці.

25 студзеня 2004 года завершыўся семінар – практыкум выставай-продажам у Камянецкім ГДК, дзе ўсе, хто хацеў, набывалі вырабы. Тут жа можна было абмяняць старыя лыжкі, якія збіраюцца для калекцыі, на новыя, пазнаёміцца з майстрамі і даведацца пра таямніцы гэтага народнага рамяства.

*Іван Жытко.*



*У. М. Чыквін са сваёй калекцыяй лыжак. Фота Міколы Шума.*

# Зварот да грамадскасці

Ціхім чынам непрадоўжаных кантрактаў на Беларускім тэлебачанні перастае існаваць фальклор-тэатр "Госьціца".

Створаны больш як 18 гадоў таму, як дзіцячы фальклорны ансамбль, калектыў ператварыўся ў сапраўды самазначную адзінку, дыяпазон якога займае межы ад аўтэнтычнага фальклору, класікі сярэднявечча, кантавай культуры да сучасных харэаграфічных жанраў, такіх як фолк-мадэрн-балет (вынаходніцтва калектыва), этнамадэрн-данс.

Удзельнік і пераможца шматлікіх міжнародных фестываляў і конкурсаў, добра вядомы шырокай публіцы сваімі здабыткамі калектыў, часам быў запатрабаваны ў розных передачах радыё, але так і не атрымаў уласнай праграмы на тэлебачанні. Марнымі былі спадзяванні, што з адкрыццём тэлеканала "Лад" "Госьціца" зойме належнае месца ў эфіры.

Закрыццё на Нацыянальным тэлебачанні сапраўды нацыянальнага калектыву ў момант узмоцненнага дакляравання нацыянальнай ідэі ёсць пытанне не адміністрацыйнае, і не камерцыйна-эканамічнае – гэта пытанне творчае і палітычнае. Гучыць яно так: ці можа развівацца культура без асэнсавання здабыткаў мінулага і без пошукавага памкнення ў будучыню? Ці можа быць беларуская нацыянальна ідэя без Беларускага?

***Шавялевіч*** -- кінарэжысёр.
***В. Іпатава*** -- пісьменніца.
***Ул. Колас*** – кінарэжысёр, педагог, старшыня Рады беларускай інтэлігенцыі.
***Сяргей Патаранскі*** – паэт, драматург, рэжысёр, педагог.
***Генадзь Бураўкін*** – паэт.
***Ніл Гілевіч*** -- народны паэт Беларусі, прадюсар.
***Святлана Зелянкоўская*** -- актрыса тэатра імя Я. Купала.

# Да недабразычліўцаў Беларусі адкрыты ліст

Я сягоння звяртаюся да тых, чые сэрцы паўняцца пачуццём непрыязні да нашай мілай Бацькаўшчыны: адумайцеся, спыніцеся душыць усё наша беларускае. Апошкі крок у гэтым плане – пасланне дырэктара УП ЖРЭА Партызанскага раёна г. Менска А. В. Пракаповіча Алегу Трусаву, старшыні "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" і Алене Анісім, старшыні Менскай гарадской арганізацыі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" аб высяленні рэспубліканскага гарадскога і раёнага кіраўніцтваў "ТБМ імя Ф. Скарыны" з арандаванага памяшкання па вуліцы Румянцава, 13.

На такое могуць рашыцца толькі людзі, поўныя ненавісці да Беларусі, альбо людзі з хворымі галовамі. А калі добра паразважаць, то яны раўназначныя.

У звароце ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" да грамадзян Беларусі гаворыцца, што высяленне трох арганізацый ТБМ рэспубліканскай, Менскай гарадской і Партызанскай раённай ёсць не што іншае, як знішчэнне ў цэлым грамадскай арганізацыі краіны, што пагражае, нават, існаванню незалежнай беларускай дзяржавы.

Вы, тыя, хто мае наўпроставае ці ўскоснае дачыненне да ганебнага акта высялення ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ці задумаліся над тым што вы робіце. Вы пакрыеце сябе за свой вандалізм вечнаю ганьбаю. Вашыя ўнукі і праўнукі праклянуць і адракуцца ад вас, бо на іх будуць пальцамі паказваць, і ім будзе брыдка называцца вашымі нашчадкамі.

А наша мова беларуская, як казаў Ф. Багушэвіч, нам Богам даная, і за здзек, які вы чыніце над ёю, Бог вам ніколі не даруе. Кара боская падзе на ўвесь ваш род. То падумайце не толькі пра сённяшні сытны ваш дзень, а і пра сваіх родных, якім давядзецца жыць пасля вас.

Варта ўспомніць вам словы з вершы Генадзя Бураўкіна:

***Перажыла мая родная мова***
***І Бенкендфука і Мураўёва***
***....***
***І тых,***
***хто з мякінай у галаве,***
***Перажыве!***

То займіцеся прасяваннем мякіны, можа знойдзеце хоць адно рацыянальнае зярнятка. Дай вам Бог удачы ў яго пошуку.

Ад імя сяброў раённай арганізацыі "ТБМ імя Ф. Скарыны" і насельнікаў Дзятлаўскага раёна

***Мікола Грышан,***
***старшыня раённай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"***

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Пачалася падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другі квартал 2004 года. Частка нашых чытачоў падпісалася на паўгода, аднак далёка не ўсе. У некаторых перад Новым годам не аказалася дастаткова грошай. Разам з тым газета "Наша слова" павялічыла аб'ём да 12 старонак і ў сувязі з гэтым пачала друкаваць мноства матэрыялаў вельмі важных у адукацыйным ды выхаваўчым плане і вельмі неабходных для практычнай дзейнасці арганізацый ТБМ, асабліва ў тых складаных умовах, якія ствараюць для нас улады.*

*Мы заклікаем сяброў ТБМ, хто падпісаўся толькі на першы квартал, або не падпісаўся зусім, аформіць падпіску з 1 красавіка 2004 года.*

*Чытайце "Наша слова", сябры! Будзьце з намі!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі / пераадрасоўкі | 3750 руб. / руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды
Каму (паштовы індэкс) (адрас)
(прозвішча,ініцыялы)

Гарадзенская губерня (Гарадзенскае ваяводства)

| Прозвішча і імя кіраўніка | Гады жыцця, месца нараджэння і смерці | Пасада |
|---|---|---|
| Ражанскі Фелікс | ?- пасля 1903 | памочнік К .Каліноўскага, выдавец газеты "Мужыцкая праўда", аўтар паўстанцкіх песень на беларускай мове |
| Мілевіч Ільдафонс Юр'евіч (псеўданім Міла) | каля 1835-? | сакратар паўстанцкага цывільнага начальніка Гарадзенскага ваяводства |
| Сангін Станіслаў | каля 1818-03.(15).02.1863, в.Рэчыца Пружанскага пав. | намеснік гарадзенскага ваяводы (студзень 1863 г.) |
| Баранцэвіч Антон Казіміравіч | каля 1837, в. Кірклішкі Ашмянскага пав.-26.01.1918, Львоў | паплечнік В. Урублеўскага, камандзір паўстанцкага аддзела |
| Белакоз Адольф Сцяпанавіч | каля 1826, маёнтак Лешна Ваўкавыскага пав. – 1865 ці 1895 | паўстанцкі начальнік г. Беластока (пачатак 1863 г.) |
| Стажэнскі Віктар Вацлаў (Старжынскі Віктар Мацевіч) | 26.09.1826, маёнтак Страбля Бельскага пав. Гарадзенскай губ. – 31.05. ці 17.06.1882 | губернскі маршалак шляхты, кіраўнік партыі "белых" |
| Стравінскі Густаў (псеўданім Млотак) | 1837, Ваўкавыскі пав. –1905 | камандзір Ваўкавыскага паўстанцкага аддзела |
| Гліндзіч Мечыслаў | 1836- пасля 1880 | паўстанцкі цывільны начальнік Ваўкавыскага павета |
| Цікорскі Уладзіслаў (псеўданім Замэчак) | 1823 - 1876 | камандзір аддзела на мяжы Аўгустоўскага і Гарадзенскага ваяводства |
| Камінскі Іван | ?-? | павятовы паўстанцкі начальнік у Гарадзенскім павеце |
| Ваньковіч Ян Эдвард Валенцевіч (псеўданім Ляліва) | 11(23).101834, маёнтак Сляпянка, каля Менска – 02.08. 1899 | камандзір Берасцейскага паўстанцкага аддзела |
| Такарэвіч Юзаф | 1841, г. Бельск, Беласточчына – 1919 | камандзір паўстанцкага аддзела |
| Траўгут Рамуальд Людвікавіч (псеўданім Кракоўскі) | 04(16).01.1826, в.Шастакова Берасцейскага пав., цяпер Камянецкі р-н 24.07. (05.08). 1864, Варшава | камандзір Кобрынскага паўстанцкага аддзела, кіраўнік Польскага нацыянальнага ураду ў Варшаве (з кастрычніка 1863 г.) |
| Ставінскі Іосіф | каля 1805 – каля 1885 | паўстанцкі цывільны начальнік Слонімскага павета (з траўня 1863 г.) |
| Сымонавіч (Сімановіч) Уладзіслаў Генрыхавіч | каля 1831- 1880 | паўстанцкі цывільны начальнік Слонімскага павета (да траўня 1863 г.) |
| Лянкевіч Аляксандр Алаізавіч (псеўданім Ляндэр) | 1823, Гродзенская руб. -? | вайсковы начальнік Гарадзенскага, Ваўкавыскага паветаў, палкоўнік |
| Тышка (Тыска) Антон | 1839 - ? | камандзір паўстанцкага аддзела ў Гарадзенскай і ў Агустоўскай губ. |
| Юндзіл Францішак Уладзіслававіч | 1825, Слонімскі пав. – 14. 02.1865 | вайсковы начальнік Слонімскага павета (з вясны 1863 г.), камендант г. Кракава (з кастрычніка 1863 г.) |
| Калупайла Ян | ? - ? | вайсковы начальнік Слонімскага павета (з восені 1863 г.) |
| Лукашэвіч Ізідор | ? - ? | камандзір паўстанцкага аддзела ў Слонімскім павеце |
| Рагінскі Раман | 29.02.1840 – 15.02.1915 | камандзір паўстанцкага аддзела ў Заходнім Палессі |
| Кульчыцкі Лявон Францавіч | каля 1823, Аўгустоўская губ. – 05.(17).04.1863 | начальнік чыгуначнай станцыі г. Горадні, камандзір групы стралкоў у Аўгустоўскім ваяводстве |
| Рыльскі Браніслаў | ?- 15.02.1863, м. Рэчыца каля Камянца | камандзір аддзела ў Пружанскім павеце |
| Влодэк (Уладак) Фелікс | ? -? | камандзір Пружанскага паўстанцкага аддзела |
| Крысіньскі Карл | ? - ? | камандзір аддзела на Беласточчыне |

**Ад рэдакцыі.**

22 сакавіка 1864 года быў пакараны смерцю кіраўнік паўстання 1863-64 гг. Кастусь Каліноўскі. Да 140-годдзя гэтай жалобнай даты "Наша слова" завяршае шэраг публікацый, прысвечаных паўстанню. Сёння мы друкуем першую частку спісу кіраўнікоў паўстання, складзенага **Сымонам Барысам**. Спісы за Менскае, Магілёўскае, Віцебскае і Ковенскае ваяводствы будуць надрукаваныя ў наступным нумары.

Чалавек жыве роўна столькі, колькі пра яго памятаюць. Публікуючы гэтыя спісы мы пацвярджаем, што нашая памяць пра герояў таго паўстання нікуды не знікае. Наадварот з кожным годам нашыя гісторыкі, навукоўцы, краязнаўцы падымаюць з забыцця ўсё новыя і новыя імёны.

У савецкі час нам дазвалялі мець аднаго асноўнага героя і некалькі другарадных. Паднятыя спісы сведчаць зусім іншае. Сваіх герояў мела кожнае ваяводства, кожны павет. Паўстанне сапраўды было ўсенародным.

*СЛАВУТЫЯ СУАЙЧЫННІКІ*

# ВУЧОНЫ, ЯКІ АПЯРЭДЗІЎ ЧАС

Адным з самых каларытных прадстаўнікоў навуковай думкі дарэвалюцыйнай Беларусі з'яўляўся Сармат-Якуб-Жыгімонт Адамавіч Наркевіч-Ёдка (1847-1905). Яго навуковыя інтарэсы ахоплівалі галіны фізікі, медыцыны, прыродазнаўства. Яго асаблівасцю была ўніверсальнасць. Высокая агульная культура і сур'ёзная ўсебаковая адукацыя дазволілі вучонаму весці самыя рознабаковыя доследы, у тым ліку і гуманітарныя. З вялікім поспехам ён, напрыклад, чытаў лекцыі па этнаграфіі ў Венскім прыродазнаўча-гістарычным музеі. Прыродазнаўчыя доследы ён пачаў з грому – і громаадводаў, потым перайшоў да вывучэння выкарыстання электрычнасці ў земляробстве, для электратэрапіі, электраграфіі, а таксама бяздротавай перадачы электрычных сігналаў.



Яго бацька паходзіў са знатнага роду герба Ліс і быў маршалкам Ігуменскага павету. Па традыцыі яго старэйшаму сыну далі трайное імя: Сармат-Якуб-Жыгімонт, але ў сям'і ён быў проста Якубам. У пачатку 60-х гадоў яго аддалі ў Менскую губернскую гімназію, поўны курс якой ён скончыў у 1865 г. Яшчэ да заканчэння гімназіі Наркевіч-Ёдка стаў славуты як віртуёз-піяніст, вандраваў па Еўропе і меў "выдатныя водгукі каранаваных асоб". Пасля прыезду ў Расію ў 1868 г. ён стаў службоўцам 1-га рангу Маскоўскага дваранскага сходу, адначасова выкладаў у Марыінска-Ярмолаўскай вучэбнай установе. Наступны перыяд яго жыцця вывучаны мала, але ёсць звесткі, што ён займаўся ў Інстытуце медыцыны ў Фларэнцыі, на медыцынскім факультэце ў Сарбоне, у вучэбных установах Вены. Менавіта тады яго імкненне да навукі пачало дамінаваць над музычнымі здольнасцямі.

Беларускі вучоны быў аўтарам шэрагу вынаходніцтваў. Навуковая дзейнасць Наркевіча-Ёдкі практычна пачынаецца ў 1872 г., калі ён вярнуўся з-за мяжы і ў сваім маёнтку Антонава пабудаваў метэаралагічную станцыю, якая ў 1888 г. была перанесена ў Наднёман. Странцыя зацікавіла Рускае геаграфічнае таварыства, дакладней, Галоўную фізічную абсерваторыю Расіі. Першапачатковае супрацоўніцтва з гэтымі арганізацыямі прывяло да кантактаў з навуковым светам. Паступова акрэсліваліся галоўныя кірункі дзейнасці і навуковых пошукаў Наркевіча-Ёдкі: вывучэнне ўздзеяння знешніх сіл прыроды, у першую чаргу электрычнасці, на жывы свет. Так як вучоны меў грунтоўныя веды ў галіне медыцыны, то ён займаўся лячэннем хворых, прапагандаваў супрацьдэфтэрытныя прышчэпкі, адчыніў у Слуцку і Пясочным аптэкі, узначальваў мясцовыя аб'яднанні цвярозасці. Гэты кірунак яго дзейнасці прывёў да адкрыцця новых метадаў лячэння – электрамасажу і электратэрапіі.

У гэты час быў заснаваны санаторый "Наднёман", дзе вучоны на практыцы прымяняў свае задумы. Праца ў вобласці электратэрапіі далей былі развіты ў адносінах магнітатэрапіі і металатэрапіі. Да таго ж, яшчэ да 1891 г. ім былі праведзены доследы па рэгістрацыі электрычных сігналаў на адлегласці, дзякуючы якім вучонага можна лічыць вынаходнікам радыё, бо аналагічны дослед быў праведзены Паповым толькі праз 3 гады (8 траўня 1895 г). Акрамя таго, вучоны з'яўляўся супрацоўнікам газеты "Минский листок" быў карэспандэнтам Галоўнай фізічнай абсерваторыі, Імператарскага інстытута эксперыментальнай медыцыны, ганаровым членам фізіка-матэматычнага таварыства Галілея ў Фларэнцыі... Усе тытулы Наркевіча-Ёдкі нават цяжка пералічыць: ён быў доктарам Венскага медыцынскага таварыства, дыпламантам Сходу аховы здароўя Расіі, уладальнікам бронзавага медаля за кумысалячэнне, срэбранага медаля Рускага геаграфічнага таварыства, ордэна Св. Ганны 2-й ступені і г. д.

Вучоны многае паспеў зрабіць, але па прычыне гістарычных умоў і занадта глыбокага пранікнення ў тайны прыроды быў незразумелы сучаснікам. Неяк зусім непрыкметна яго імя сышло з даляглядаў шырокай навуковай свядомасці. І толькі жыхары Наднёмана працягвалі захоўваць успаміны ў знак удзячнасці славутаму земляку. Цікаўнасць да яго асобы аднавілася некаторы час назад. Сёння пра дзейнасць Якуба Адамавіча Наркевіча-Ёдкі напісаны артыкулы ў перыядычных выданнях. Зараз мы ўжо можам сказаць пра яго, калі не ўсё, дык дастаткова многае.

***Кацярына Белякова.***

# УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА ЗАСНАВАНЫ АФІЦЫЙНЫЯ ГЕРАЛЬДЫЧНЫЯ СІМВАЛЫ АДМІНІСТРАЦЫЙНА-ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫХ АДЗІНАК ВІЦЕБСКАЙ ВОБЛАСЦІ

11 лютага Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 60 "Аб заснаванні афіцыйных геральдычных сімвалаў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Віцебскай вобласці".

Як паведаміла прэс-служба прэзідэнта, у мэтах адраджэння гістарычна-геральдычных традыцый Віцебскай вобласці заснаваны гербы і сцягі Віцебска, гарадскога пасёлка (г. п.) Відзы і г.п. Друя Браслаўскага раёна, г. п. Копысь Аршанскага раёна, гербы Дзісны Мёрскага раёна, г.п. Ветрына Полацкага раёна, г.п. Падсвілле Глыбоцкага раёна і г.п. Ула Бешанковіцкага раёна.

Выявы гербаў і сцягі будуць размяшчацца на будынках органаў мясцовага кіравання і самакіравання адпаведных гарадоў, гарадскіх пасёлкаў Віцебскай вобласці і іх тэрыторый, у памяшканнях пасяджэнняў органаў мясцовага кіравання і самакіравання і службовых кабінетах кіраўнікоў гэтых органаў.

Апроч таго, выявы гербаў і сцягоў могуць размяшчацца ў гарадах і гарадскіх пасёлках Віцебскай вобласці ў тых месцах, дзе прадугледжана размяшчэнне дзяржаўнага герба і сцяга Беларусі, а таксама выкарыстоўвацца падчас дзяржаўных святаў і святочных дзён, урачыстых мерапрыемстваў, што ладзяцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі, народных, працоўных, сямейных святаў і мерапрыемстваў, прымеркаваных да памятных датаў.

***Генадзь ШАРЫПКІН, БелаПАН.***

# Мае ўражанні ад паездкі ў Польшчу

Праз газету "Наша слова" № 40 29. Х.03 г. я даведалася пра літаратурна-мастацкі конкурс "Я беларус, і тым ганаруся !" Гэты дзіцячы рэспубліканскі конкурс праводзіўся Міжнародным Грамадскім Аб'яднаннем "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Даслаўшы на конкурс два свае вершы на беларускай мове, я стала лаурэатам конкурсу. У якасці ўзнагароды мне прызначылі турыстычную паездку ў Польшчу, тэрмінам на адзін тыдзень. Лаўрэатаў усяго было сорак. Гэта дзеці з усіх куткоў нашай Радзімы: ад Берасця да Віцебска. Разам з кіраўнікамі, якіх было пяць, мы на аўтобусе накіраваліся ў Польшчу.

У Польшчы мы жалі ў чатырохзорным гатэлі ў г. Нова Руда. Гэты горад амаль на мяжы Чэхіі, Польшчы і Германіі. Каля самага горада знаходзяцца Судэцкія горы Мы чатыры разы ездзілі на горналыжную базу, дзе каталіся на горных лыжах з гары Арлець. Свежае паветра, снег, на якім усміхаецца сонца, і незабыўныя хутнасныя спускі... Да гэтай пары я ў сваім жыцці ніколі не бачыла горы, а на гэты час мне здаецца, я пакінула там кавалачак сэрца. Акрамя горных лыжаў мы мелі і іншыя заняткі. Разам з кіраўнікамі, дарэчы без іх не абыходзілася ніводная справа, мы здзейснілі экскурсію ў капальню. Там у час II Сусветнай вайны фашысты прымушалі палякаў здабываць вугаль. Мы апынуліся на 40 м пад зямлёй і адчулі, што час не мае ўлады над капальняй. Выйшлі мы з поўнымі ўражанняў вачыма, хаця на нашых тварах толькі вочы і зіхацелі, бо па традыцыі твары нашы былі запэцканы вугалем. Няўжо ж працаўнік выходзіць з капальні з чыстым тварам?! Мне вельмі запомніўся горад Кладска, у якім мы наведалі ратушу і замак. Вельмі прыемна, што польскі люд здолеў захаваць помнікі архітэктуры ў іх натуральным, а не змененам выглядзе.



*Кацярына Шчурка з пачынаем шахцёра каля ўваходу ў капальню ў Новай Рудзе*

Апошнім пунктам нашага маршруту быў горад Беласток Там мы бачылі самую старую частку горада, дзе знаходзіцца палац буйнага фабрыканта. Гэты палац выкананы ў змяшэнні архітэктурных стыляў. Выглядае гэта даволі прыгожа і светла. У гэты час будынак палаца займае Мастацкі Ліцэй. Таксама ў старой частцы горада стаіць уніяцкі гатычны сабор. У саборы захаваліся фрэскі ХУ і пачатку ХУІ стагоддзяў. Вельмі ўзрадавала, што ў Беластоку людзі размаўляюць на беларускай мове. Беласток жа раней, як вы, пэўна, ведаеце, быў беларускім горадам.

Пад час нашых вандровак мы не захоўвалі спакой і цішыню Былі праведзены гістарычныя музычныя конкурсы і вікторыны, неўміруча гучалі беларускія песні.

У кампаніі спадароў Міколы, Алеся і Анатоля, спадарынь Ганны і Ніны, мы не мелі часу сумаваць. Я атрымала асалоду ад размоў на роднай мове ў беларускім асяроддзі.

Хачу выказаць сваю ўдзячнасць спадару Міколу, які, мабыць, прачытае гэтыя радкі, але найперш дзякую таму чалавеку, на чые сродкі мы адпачывалі ў Польшчы.

Завуць гэту высокашаноўную спадарыню – Ірэна Каляда, і жыве яна ў ЗША. Дзякуючы спадарыні Ірэне, я пазнаёмілася з цудоўнымі людзьмі, якія падтрымліваюць нацыянальную культуру.

У наш час людзі, што шануюць родную мову і культуру, сустракаюцца досыць рэдка. Я вельмі ўдзячная лёсу за магчымасць знаёмства з сапраўднымі беларусамі за мяжой і ў Беларусі.

* * *

Жывы ручай дасціпнай мовы
Звініць даўно ў душы маёй
І чую я купалаўскія словы
Трымаю моцна іх душой сваёй
Мне каб прарваць полон каменны
Каб назаўжды свабоду атрымаць
Мне трэба марыць ночна, дзенна
Мне трэба шчасце адшукаць
А што мне шчасце без надзеі,
Нібы без волі родны кут,
Трывогі ў сэрцы вецер вее
Як згадка колішніх пакут,
І нехта рве сардэчныя ўсе краскі
Вянкі звівае, кідае ў ваду,
Неабароненае сэрца просіць казкі,
А людзі яго толчуць на хаду.
Дык дзе ж ты, казка Коласа-Купалы.
Няўжо ты знікла назаўжды,
Пакінулі мяне блакітныя ўсе мары,
Заіржавеў мой плуг,
ля непачатай баразны.

* * *

Паклон... Паклон табе сардэчны,
Зямля Радзімы, родная зямля,
У мне ўзрастае гонар вечны,
Бо ты зраўняла прастака і караля.
На роднай мове з селянінам размаўляла,
Гучала гучна ў сойміках паноў...
Зямля, ты толькі працу шанавала
І шчодраю была да ўсіх сваіх сыноў.
Мы – беларусы. Так было спрадвеку,
Хоць называлі нас і Польшчай, і Літвой.
Што заміж мовы застаецца чалавеку,
Калі ў чужынца слова пад пятой?
Я - беларус! Я маю сваю мову!
Не трэба мне астрогам пагражаць!
За грошы не прадам ніколі гонар,
Ніхто мяне не зможа ашукаць.
Не трэба запрашаць мяне на замак,
Не трэба пеставаць і частаваць,
Купалы я і Коласа нашчадак,
Не дам я катам дух свой скасаваць!
Праклён! Праклён спрадвечны
Я буду ўсім тыранам дасылаць.



*Уніяцкі сабор у Беластоку*



*Фрэскі 15 ст. у музеі пры Уніяцкім саборы ў Беластоку*

*Кацярына Шчурка, г. Ліда, школа № 8 , 9 "б" кл.*



*Турыстычная група ў г. Кладска*

## *Да 700-годдзя з дня нараджэння Франчэска Петраркі*

Беларускі ПЭН-цэнтр пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газетаў "Белорусская деловая газета", "Биржа информации", "Барысаўскія навіны", "Брестский курьер", "Витебский курьер", "Вечерний Брест", "Газета Слонімская", "Інтэкс-press", "Местная газета", "Местное время", "Навінкі", "Народная воля", "Наша Ніва", **"Наша слова"**, "Новы час", "Переходный возраст", "Рэгіянальная газета", "Региональные ведомости", "Телевид-инфо", часопісаў "Arche", "Студэнцкая думка", "Дзеяслоў", "Мясцовы час", інтэрнэт-выданняў "Літара.net", "Кнігі.com", "Дзед Талаш", "Пагоня.promedia.by" **аб'яўляе творчы конкурс для маладых літаратараў:**

***Твор пра каханне***

Да ўдзелу запрашаюцца творцы ад 16 да 22 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на літаратурны семінар і майстар-класы ў сталіцу, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, спевакі, адбудзецца зацікаўленая гутарка аб творах маладых аўтараў і літаратурнай дзейнасці.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданні, эсэ, п'есы, сцэнары, дзённікі і г.д.)

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпелі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за **15 сакавіка 2004 г.** Падвядзенне вынікаў першага туру адбудзецца 25 сакавіка. Літаратурны семінар пройдзе ў Менску 29 красавіка — 2 траўня.

Лаўрэаты леташняга конкурсу імя Наталлі Арсенневай маюць права ўдзельнічаць і сёлета.

**Журы конкурсу:** Лявон Баршчэўскі (старшыня), Пятро Васючэнка, Ганна Кісліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч.

**Творы дасылайце на адрас:**
**e-mail: pen@pen.unibel.by.**
**Паштовы адрас: 220050 а/с 218 Менск РГА "Беларускі ПЭН-цэнтр".**
**Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон (017) 288-14-61.**



# Алімпіяда на беларускай мове – крок у будучыню

Там, дзе неба нясуць велічныя вежы Сафіі, дзе шчыравалі святая Ефрасіння, Сімяён Полацкі, Францішак Скарына, у слынным горадзе Полацку штогод праходзіць абласная алімпіяда па беларускай мове. Вось ужо 12-ты раз у цэнтры высокай духоўнасці і адраджэння запальваюцца зорачкі Беларусі, якія праз кароткі час асветляць будучыню нашай краіны. Упэўненыя, што старажытны Полацак – найпрыдатнейшае месца для правядзення беларускай алімпіяды і яго маладосць – у будучыні.

Полацкая зямля цудоўна прымае (і гэта ўжо стала традыцыяй) знаўцаў роднае мовы, дзякуючы аддзелу адукацыі горада, дырэктару ПТВ № 233 Кур'ян Марыі Аляксандраўне і яе намесніку па выхаваўчай рабоце Бараноўскай Святлане Аляксандраўне, намаганнямі якой наладжваюцца культурніцкія імпрэзы з удзелам шчырых навучэнцаў.

Сёлета ў спаборніцтве ведаў і творчасці ўзялі ўдзел 88 школьнікаў з 26 раёнаў Віцебскай вобласці, акрамя Дубровенскага, які трэці год не адпраўляе найлепшых знаўцаў беларускае мовы і літаратуры. З году ў год на алімпіядзе вобласці пануе атмасфера спакою, справядлівасці, розуму і нацыянальнага духу як вынік зладжанай і плённай працы аргкамітэта і арганізатара правядзення алімпіяды – метадыста ІПК Бабашкі Рымы Іосіфаўны. Журы, у склад якога ўваходзіў і намеснік старшыні Віцебскай абласной рады ТБМ Юры Міхайлавіч Бабіч, адзначае незвычайна высокі ўзровень моўных ведаў школьнікаў цягам апошніх двух гадоў. Пераможцамі сталі і атрымалі дыпломы I ступені Міхайлоўская Настасся (Бягомльская СШ), Кірык Вольга (Лужаснянская гімназія), Ташулёнак Вікторыя (школа-інтэрнат-гімназія г. Полацка) і дыпломы II ступені – Стукан Настасся (СШ № 1 г. Докшыцы), Шабека Ганна (ліцэй № 1 г. Віцебска), Храмава Дар'я (Нацыянальная гімназія г. Полацка) і дыпломы III ступені – Дзямбіцкая Марыя (ліцэй № 1 г. Віцебска), Чарнаская Марыя (Домжарыцкі ліцэй), Арцюк Ігар (СШ № 37. г. Віцебска).

Назавём выдатнай заканамернасцю тое, што вось ужо 10 гадоў перамагае на вобласці Докшыцкі раён і 5 гадоў – СШ № 37 і ліцэй № 1 г. Віцебска, дзякуючы сістэматычна арганізаванай і творчай працы настаўнікаў.

Дух абласной беларускай алімпіяды сілкавала культурніцкая праграма, традыцыйная і незвычайная па сутнасці. Як і даўней, наведванне Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра прымусіла падумаць пра вечнае, успомніць, хто мы, адкуль і куды ідзём. Але Полацак вядомы і тым, што ў ім свае першыя крокі ў вялікую літаратуру зрабілі знаныя творцы. Такім адданым беларушчыне талентам стаў заўчасна памерлы грамадскі дзеяч, паэт, выкладчык, актыўны сябра ТБМ Анатоль Канапелька, памяці якога і была прысвечана незвычайная вечарына паэзіі, што аб'яднала выкладчыкаў і ўдзельнікаў алімпіяды, дала сілы для працы і радасці ў творчасці. Тут падчас алімпіяды на Полацкай зямлі адчуваеш духоўную моц сівых стагоддзяў і ўпэўнены, што не знікла повязь шматлікіх пакаленняў. Верыш у будучыню. Наперадзе – незвычайныя задумы сумесных намаганнямі абласнога аргкамітэта і сяброў ТБМ аздобіць культурна-асветніцкую праграму алімпіяды.

Нягледзячы ні на што, беларуская алімпіяда жыве. Вельмі важна ў такі нялёгкі для краіны час яе захаваць, бо гэта адна з наймацнейшых ступенек выяўлення і развіцця талентаў нацыянальнай моладзі, выдатны шлях фармавання моўных ведаў у сістэме. Вядома, што адны з найлепшых студэнтаў і выпускнікоў ВНУ – алімпійцы, а значыць – і найлепшыя навукоўцы, і найлепшыя грамадзяне, і найлепшая будучыня Беларусі.

*Любоў Лукашэнка, сябра Віцебскай абласной рады ТБМ.*

# Сустрэчы з Генадзем Бураўкіным

Па запрашэнні Віцебскай абласной рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" ў Віцебску пабываў вядомы паэт і грамадскі дзеяч Генадзь Бураўкін.

У першы дзень свайго побыту ён сустрэўся з акторамі і кіраўніцтвам тэатра імя Я. Коласа. Адбылася зацікаўленая размова аб культурным жыцці Беларусі, паэт чытаў свае вершы, а вечарам глядзеў спектакль "Вішнёвы сад". З акторамі тэатра Г. Бураўкін сустрэўся яшчэ пасля спектакля "От цо да" па п'есе Сакрата Яновіча.

Цікавай і вельмі цёплай атрымалася сустрэча паэта з чытачамі ў абласной бібліятэцы. Аўтар чытаў вершы з кніг "Выбранае", "Паміж зоркай і свечкай", "Чытаю тайнапіс вачэй", а таксама з яшчэ не выдадзеных – "Жураўліная пара", "Лісты да запатрабавання".

Удзельнікі сустрэчы цікавіліся поглядамі Генадзя Бураўкіна на падзеі ў грамадскім жыцці Беларусі, на ўзровень беларускага тэлебачання, сучаснай літаратуры. Паэт зазначыў, што цяпер заканчвае працу над складаннем кнігі ўспамінаў пра Васіля Быкава пад назвай "Наш Васіль Быкаў", якая павінна выйсці да 80-годдзя з дня нараджэння народнага пісьменніка. "Гэта цікавая і няпростая справа, бо вельмі хочацца паказаць Быкава не толькі, як асобу ў літаратуры, грамадскім жыцці, але і як проста чалавека, якога большасць не ведае. Як сябра скажу, што ён быў чалавек мяккі, добры, з унікальным пачуццём гумару", - сказаў Генадзь Мікалаевіч.

Для кнігі даслалі свае ўспаміны вядомыя людзі з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, і, вядома, з Беларусі".

З захапленнем і цікавасцю сустракаліся з Генадзем Бураўкіным дзяўчаты і юнакі ў ГПТВ – 46, сярэдняй школе № 29, а ў ліцэі № 1 і сярэдняй школе № 37 сустрэча стала сапраўдным святам беларускай паэзіі. Хочацца асабліва адзначыць зацікаўленасць і творчы падыход да арганізацыі сустрэч настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Алены Аляксандраўны Гаспаровіч з СШ № 29, Любові Яўгенаўны Лукашэнкі з ліцэя № 1 і СШ № 37. Спрыялі правядзенню сустрэч кіраўнік абласной бібліятэкі імя У. Леніна, тэатра імя Я. Коласа, ПТВ – 46, СШ № 29, 37, ліцэя № 1.

Г. М. Бураўкін наведаў абласны літаратурны музей і тэатр "Лялька".

*Падрыхтаваў старшыня Віцебскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" **І. А. Навумчык.***

## Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры
## Кафедра гісторыі і музеязнаўства

**Паважаныя выпускнікі!**

Прапануем вам стаць студэнтамі нашага універсітэта па спецыяльнасці "Музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны", спецыялізацыя "музеязнаўства", кваліфікацыя "музеявед".

Вы атрымаеце высакародную і патрэбную ў грамадстве прафесію. Высакародную – таму, што музей – гэта месца захавання і памнажэння гістарычнай, культурнай і духоўнай спадчыны. Патрэбную – таму, што музеі і музейныя ўстановы ўвесь час развіваюцца, і, адпаведна, неабходны спецыялісты.

Нашы выпускнікі працуюць у якасці інспектараў у галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, займаюцца рознымі пытаннямі, звязанымі з музейнай справай, у тым ліку на кіруючых пасадах у галіне культуры.

Дадзеную спецыяльнасць забяспечвае кафедра гісторыі і музеязнаўства, на якой працуюць 3 доктары навук і 6 кандыдатаў навук.

Акрамя ўжо знаёмых вам прадметаў гістарычнага кірунку, вы будзеце вывучаць лацінскую і польскую мовы, а таксама спецыяльныя і цікавыя прадметы, такія, як нумізматыка, анамастыка, фалерыстыка, праектаванне выстаў і музейных экспазіцый, кансервацыя і рэстаўрацыя помнікаў, жыллё ў звычаях і абрадах беларусаў, сярэднявяковая кераміка і інш.

Прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю і сярэднюю спецыяльную адукацыю. Форма навучання – дзённая.

Уступныя экзамены: беларуская ці руская мовы – цэнтралізаванае тэсціраванне; гісторыя Беларусі – тэсціраванне ва універсітэце; Чалавек. Грамадства. Дзяржава – тэсціраванне ва ўніверсітэце.

Больш падрабязную інфармацыю вы зможаце атрымаць па тэлефонах:
222-83-37, 222-83-41
або па адрасу:
220001 г. Мінск, вул. Рабкораўская, 17, каб. 308, 516
САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ !

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

**ПРАЦЯГВАЕ ГІСТАРЫЧНЫЯ СЕМІНАРЫ ДЛЯ МОЛАДЗІ МЕНСКА!**

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі пра мінулае і сучаснае нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч, Сяржук Кручкоў.**

***Чарговыя сустрэчы адбудуцца з 4 па 12 лютага ў 18.00 у сядзібе ТБМ па адрасе: вул. Румянцава, 13***

**20 лютага, 18.00.** Гісторыя ўзнікнення і развіцця беларускіх партый і руху ў Менску на працягу XX стагоддзя. **Скалабан В. У.**

**21 лютага, 18.00.** Як жыць лепей ва ўмовах эканамічнай і палітычнай сітуацыі краіны? **Дзіцэвіч Л. М.**

**24 лютага, 18.00.** Менск у часы сталінскіх рэпрэсій. **Тарасаў К. І.**

**24 лютага, 19.30.** Як стварыць суполку ТБМ? **Кручкоў С. М.**

**26 лютага, 18.00.** Гістарычная тапаграфія і тапаніміка Менска. **Грыцкевіч А.П.**

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Менска і ваколіц.**

### Адказы на крыжаванку са ст. 12.

1.Піраміда. 2.Паралель. 3.Культура. 4.Карабель. 5.Тальянка. 6.Карэктар. 7.Характар. 8.Механіка. 9.Кераміка. 10.Каністра. 11.Міграцыя. 12.Павільён. 13.Дакумент. 14.Караліна. 15.Тэлетайп. 16.Араторыя. 17.Экстракт. 18.Аргумент. 19.Мікстура. 20.Струмень. 21.Плацдарм. 22.Кактэйль. 23.Тарантас. 24.Дыліжанс. 25.Эстэтыка. 26.Пракурор. 27. Экспромт. 28.Берэйтар. 29.Інтуіцыя. 30.Хамелеон. 31.Фармацыя. 32.Факторыя. 33.Батаніка. 34.Рэзананс. 35.Канфлікт. 46.Абавязак. 37.Акропаль. 38.Барэльеф. 39.Кааліцыя. 40.Эскадрон. 41.Рэдакцыя. 42.Прэлюдыя. 43.Ананімка. 44.Антытэза. 45.Наліснік. 46.Правізар. 47.Батальён. 48.Барэльеф. 49.Пісталет. 50.Этыкетка. 51.Дактрына. 52.Элеватар. 53.Экспанат. 54.Генетыка. 55.Акадэмік. 56.Каштарыс. 57.Лабарант. 58.Яфрэйтар. 59.Аспірант. 60.Сцізорык. 61.Акварыум. 62.Аэрастат. 63.Кантэкст. 64.Гербарый. 65.Адукацыя. 66.Кантракт. 67.Атрамант. 68.Лемантар. 69.Адрасант. 70.Алізарын. 71.Парастак. 72.Раздолле. 73.Пралеска. 74.Прафесар. 75.Ірыгацыя. 76.Караннік. 77.Карамель. 78.Матавіла. 79Квадрант. 80.Прыпынак. 81.Кантраст. 82.Пратакол. 83.Інтэрвал. 84.Мікрафон. 85.Прабірка. 86.Драбавік. 87.Шрапнель. 88.Вібрацыя. 89.Антыквар. 90.Папраўка. 91.Карнавал. 92.Інтэрнат. 93.Інтэлект. 94.Палеміка. 95.Практыка. 96.Абаранак. 97.Аператар. 98.Аперацыя. 99.Анатацыя. 100.Кандыдат.




**Так бы павінен выглядаць сярэднестатыстычны беларускі паштовы канверт і не толькі пры спецгашэнні. На гэтым канверце з 1996 года маркі з выявамі Міколы Гусоўскага, Мікалая Радзівіла Чорнага, Кірылы Тураўскага.**

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 51. БЯЗМЕЖНІК
**(Ф. Скарына, паэма, заканчэнне.)**

**Імя**

Быццам выпусціў
Джына магутную сілу,
Прысняшыў з першым пеўнем
Здалёку зару.
Разам з сонцам –
Імя шлях жыцця азарыла.
Удвая, нецярплівец,
Паскорыў зямлю.

Аддавалася кроў
Неспакойнаму рытму –
Рана ёй авалодаў
Запалу касцёр.
Выдыхаўся ўшчэнт
Марафон манускрыпту
Перад спрынтам рашучым
Друкарскіх лістоў.

Захліпаліся думак іх
Скорагаворкі.
Тушаваўся сустрэчны
Марудны канон.
І адна за другою
Імклівыя зоркі –
Кракаў, Падуя, Прага –
Ляцелі ўздагон.

Да яго разлівалася
Цьмянае мора.
Не збіраўся пярэчыць
Ледзь-ледзь, спакваля.
На усё замахнуўся
Бязмежжа прастору
Смелы ветразь
Няўрымслівага карабля.

Ды стыхія прывычна
Абшар хвалявала.
Суайчыннік чакаў
Доўга брата свайго.
Не даваў бунтару
Шал дзевятага вала
Родны бераг туманны
Адолець яго.

**Мост**

У Маскву небяспечную
З захаду кнігі павёз,
Падбадзёраны слынным паролем
Кірыліцы роднай.
Свет трывожыў яго
Акаянным надвор'ем
грымотным.
Над крывавай ракою
Наладзіць наважыўся мост.

Знаў ён родзічаў даўні,
Забыты ўжо радавод,
Калісь мужнасцю загартаваны
Між подзвігаў бранных.
Для яго і абапал
Разлучных струменяў барвяных
Непарушны быў
Рускі адзін праваслаўны народ.

Нехта чорны надоўга
Братоў дарагіх пасварыў,
Усучыч звёў шаленцаў
Да той жа распятай Нямігі.
Каб няшчасных удоў
Не сціхалі балючыя зыкі
І тужлівыя песні
Спявалі вакол песняры.

Вёз ён мір звар'яцелым,
Славянскае слова-святло.
І ад цемры наступніку юнаму
Выратаванне.
Але з пахам палёнага
Зноў наступала світанне,
І гармата наводзіла
Смерці пагляд-жарало.

Ах, адкуль узялася
Праклятая пошасць – вайна...
Ён нічога не ведаў
Такога дурнога на свеце.
Згодна трэсла жыццё
З процілеглых бакоў ліхалеццем.
Каб жа ведаць – чыя тут
Скрывілася страшна віна.

Напароўся ружовай надзеяй
На пільны заслон –
І ў кнігах убачылі зброю.
Смяротныя ядры.
Дык крамолу нячыстую
Знішчыла строгая варта –
Гэту трасцу літоўскую
Рускім спаліла агнём.

- Не капейка жыццё, -
Гаварылі яму, - не бунтуй!
Пад уладай і Богам
Блукаем, пакорныя, ўсе мы.
О, занадта былі ў Крамля
Цвердалобыя сцены.
Ён у роспачы ехаў вялікай
Дадому адтуль.

Шкадаваў акаянных віроў
Утрапёных людзей,
Што па-добраму мусілі
Неяк сысціся, сустрэцца.
Ды не з грэшнай,
запэцканай брудам
Нядобрай зямелькі,
А з прастору анёльскага
Выдумшчык, пэўна, глядзеў.

**Блюзнерства**

Увогуле,
з выпладкам гэтым купецкім –
Ну чыста марока.
Адны ўспаміны
ў справе блюзнерскай
Ад слова святога.
Ужо ж пастарацца яму закарцела
Для подлага люду.
І як бы дыван пацямнеў
неацэнны
Ад конскага бруду.
Дарэмна хваліўся
аматар дарожны,
Што неба наблізіў.
Свіныя лычы
дужа не ўпрыгожыў
Рассыпаны бісер.
У твані нячыстай узнік, асвячоны
Гаворкай лядачай,
Ён Госпада нашага
з відам вучоным.
Пісака, тлумачыць!
Схаваўся надзейна
галовамі соннымі
Люд за кулісы.
Дык беламу свету
сваю бессаромную
Выставіў пысу!
Прымусіў забыцца
Святую Царкву
Аб спакоі, спачыне.
Даруй, Божа, нас –
на сваю галаву
Ўсяму навучылі.

**Паляванне**

Не адпускала іх роспач
На кожнай нямілай вярсце.
Жыць не давалі ім побач –
І Майстру, і Князе - нідзе.
Доўгім было паляванне,
І быцца паранены леў,
Ад аднаго іх спаткання
Каварны праціўнік шалеў.
Толькі такіх табе,
слаўны Касцёл,
Не ставала брыдот.
Гукам мужыцкім вакол
Спакушалі, муцілі народ.
Прагнулі публікі,
Тлуму ля веры святой.
Утаймавалі разумнікаў,
Сціснулі іх нематой.
Каб аніякіх, паогул,
падснежнікаў –
Ціша ды гладзь.
Ведалі зараз, чаго ад мяцежнікаў
Трэба чакаць.
Гэта ж так кроў
скаланула аднойчы
Між гіблых балот!
Уварвалася зарніца ў вочы –
Уздрыгнуў народ.
Час для душы выпаў ранні,
І рускім святлом
У паднябесным
успыхнула храме,
Як век не было.
Дык не пашкодзілі коннікі гэтай
Яго варажбе.
Вернікі доўга іскрынкі ў паветры
Лавілі сабе.

**Апошні прыстанак**

Вярнула назад
да ранейшага следу.
Нахлынула ж думак...
Ізноў яна, Прага,
сумбурнага свету
Ласкавы прытулак.

Былі ўжо лёсы
іх розныя сплецены
Зор каляснiцай.
Як роднага брата
ў хаце прывеціла
Ўвечар сястрыца.

Далёка сышлі
на нябёсаў ускраіны
Даўнія мары.
А вось успаміны запоўнілі валямі
Блізкія твары.

Да каліўца памятаў майстар усю
Баявую дарогу.
О, як жа дарэчы аднойчы адсюль
Прыйшла дапамога!

Ды ворагаў хутка ўсчаўся загон,
Ці не з апраметнай.
Кідала пасля па Еўропе яго,
Як ліст злосным ветрам.

Але ж не забыў
першы радасны цуд
Любай справы.
Нідзе не пашчасціла болей,
як тут,
Ля павольнай Ултавы.

Ні кроплі не выстыла
з верных вачэй,
З пяшчоты вядомай.
Вяртаюцца так вось
з дарогі хутчэй
Да роднага дому.

Пакуль ён пад сонцам
яшчэ быў жывы –
Чакалі бадзягу
Святлейшыя ў моры жыцця
астравы –
І Полацк, і Прага.

Узносілі роздумы Божы куток...
О, позірк вільготны!
Успомніш нераз –
і скрозь будучы змрок –
Пра нашу паходню.

### 52. ЗАЧАРАВАНЫ
**(М. Гусоўскі, паэма, пачатак.)**

**Нараджэнне**

Не падаў у цвёрдых лістах
сіні снег
І ў полі не слаўся.
Яшчэ не тужыў
між радкоў чалавек
І не усміхаўся
Бо сціснуты там,
у пергаменце, быў
Крыжамі малітваў.
І летапіс драхлы
затрымліваў пыл
На полымі бітваў,
На княжацкай збройнай
гарачай галдзе,
На выбухах свету.
І брат наш мінулы
на зоркі глядзеў,
Люстэрка не ведаў.
Ні слёз не каціласця
З цвілых лістоў,
ні смешак Купалы.
А песня без літар
на вольны прастор
З грудзей вылятала.
Ды дыхацца стала
калісьці лягчэй
У блізкай старонцы.
Ужо без расплюшчаных
побач вачэй
Не ўсходзіла сонца.
З канонам не ладзіла
смага пяра
Сурова-маўклівым.
І прагнула моцна сабе песняра
Асенняя ніва.
Спрачаліся кветкі зямлі за яго.
А ён, неўгамонны,
Калі спавядаўся, маліўся адно
На лес свой зялёны.

**Пошук**

Пакінуў лад бяроз і мурагоў,
Пайшоў ад іх за новаю здабычай.
А Вечны Горад не чакаў яго –
Здалёку быў Паэт і Паляўнічы.

Тут крокаў рух
пад небам бег шпарчэй.
І ўсё ж хапіла месца на Парнасе.
З пачціваю цікаўнасцю вачэй
З чужынцам экзатычным
Рым пазнаўся.

Аднак жа вось –
з тугі не выручаў
Не ратаваў
ад сточыўшага джала.
Адно – вяртала памяць
у гушчар.
"Ці там шукаеш шчасця?" –
прыставала.

Нагадвала,
што чымсьці паслабеў.
Апанаваны чужаземным словам,
Ён з дрэўцам перасаджаным сябе
Міжволі зараз
трохі параўноўваў.

Бо ў незнаёмай поркаўся гульні,
Удзельнічаў у хітрым карагодзе.
Занадта ў гэтым многа мітусні.
У залах выгінаюцца –
не ходзяць.

Няўжо й яго данялі скразнякі?
І сапраўды – як у дзіравым небе,
Адважныя без меры дзівакі
Шукаюць харч
у невядомай глебе.

Якая розум падвяла лухта!
Хто пасвяціў яму
з далёкай вежы?
Ах, спакусіла хуткая вада –
Такі маўклівы
бераг быў ранейшы...

**Гонар**

Няйначай усміхнуўся
добры знак –
Бы дапамог у прыцемку ліхтар.
Які нам гонар, мой круты зямляк,
Лясоў Айчыны волат-уладар.

І ля нябёс жыве зямная жарсць
Ды варушыцца ў старым гарбе.
Ці мог ты, браце,
думаць і гадаць,
Што так высока ведаюць цябе?

І нас не заваліла сярод меж.
Не ледзь скрабемся
ў доўгай чарадзе.
Ты ў родным краі
толькі і жывеш.
Нат цень твой
не застаўся больш нідзе.

Не пакусае коней авадзень,
Разлічаных на слыннае цягло.
Не знойдзеш і з паходняю ўдзень
Высакародства мужнае тваё.

Суседняму паслужым каралю –
Уласны жа пакуль што не з рукі.
Хоць, дружа, ты раві
на ўсю зямлю,
Калі шчабечуць сціпла землякі.

**Цень**

Ніхто не глядзеў так далёка.
Бярозавы гай
Нікога не клікаў так,
ззяючы перад вачыма.
Яшчэ быў няведамы
Богам закінуты край,
Які называла самотная думка
Айчынай.

Куды ад яго,
Калі ў сэрца
скрабецца штодзень
То стромкі сасоннік,
то ранішні водар мурожны.
І вельмі ж ён несправядлівы,
няласкавы цень
Вакола зямлі дарагой,
немагчыма прыгожай.

Нязлічана гімнаў у сонц
іншаземнай красы,
У німфаў распешчаных –
процьма рулад-шчабятанняў.
І толькі вялізныя
ў сціпласці мужнай лясы
Не ведаюць пышных прамоў
і шматслоўных казанняў.

Не б'юцца там хвалі марскія
да горных пячор,
Не ўлюбіцца горача нораў,
да перчыны ласы.
Адзін застаецца
нягучнай зямліцы прастор
На памяць разважлівай плыні
маруднага часу.

Наспела гадзіна
ўголас успомніць аб той,
Якую не ўсе і пачулі,
як загаварыла:
Зялёна-блакітная далеч
між песенных мрой
Ляжыць
для нядобрых прышэльцаў
прасторнай магілай...

*(Працяг у наступным нумары.)*



Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

*(Праця. Пачатак у папяр. нумары.)*

***Касцюшка.*** З Княства ідуць добрыя вестскі. Палкоўніку Якубу Ясінскаму, чалавеку мужнаму і адданаму свабодзе, удалося падняць і далучыць да падрыхтоўкі паўстання сотні патрыётаў свайго краю. Вайсковыя канфедэрацыі створаны ўжо ў Ашмянах, Вількаміры, Панявежы, рыхтуецца Браслаў, Відзы, Друя. Гатовы да выступлення Літоўскі полк падпалкоўніка Грабоўскага. З намі паплечнікі Ясінскага навагрудскі ваявода Юзаф Насялоўскі, літоўскія пісары Бенедыкт Марыконі і Станіслаў Мірскі, менскі староста Міхал Бражстоўскі, лідскі вайсковы Дамянік Нарбут, віленскі староста Юзаф Пац, рэчыцкі падкаморы Станіслаў Валовіч, аршанскі маршалак Мікалай Храпавіцкі, рэктар віленскай акадэміі Марцін Пачобут ды іншыя... Апроч таго з намі Фёдар Сапега, граф Міхал Клеафас Агінскі. Апошні даў на святую справу 118 тысяч злотых, ужо мае 480 сваіх стральцоў. Базылянскі кляштар у Супраслі перадаў на закуп зброі 83 фунты срэбра. Рыхтуюцца да справы татарскія палкі Біляка, Ахматовіча, Бараноўскага. Далучаецца да рэвалюцыі канцлер Храповіч і берасцейскі староста Сапега.

Даруйце, што стаміў вас толькі пералікам. Але ж на душы радасць і ўпэўненасць. А гэта ў нашай вайсковай справе найпершае!

У Вільні, Гародні, Навагрудку, Бярэсці, Смаргоні, Хойніках, Пінску, Мазыры ды іншых месцах ужо складзены спісы нашых аднадумцаў — заўтрашніх жаўнераў, якія ўжо сёння ўзбройваюцца, хто чым можа.

Не, сябры, у падтрымцы Княства я ўпэўнены. Там ужо сёння патрыёты распяваюць "Песню паўстанцаў" (запявае):

*Помні добра што рабілі,*
*Як нас дзёрлі, як нас білі.*
*Докуль будзем так маўчаці!*
*Годзе нам сядзець у хаце!*
*Нашто зямлю ў нас забралі?*
*Нашто ў путы закавалі?*
*Дочак, жонак нам згвалцілі,*
*Трэ', каб мы ім заплацілі!*
*Коней нам пазаязджалі*
*Што хацелі, то і бралі.*
*Пойдзем жыва да Касцюшкі,*
*Рубаць будзем масқалюшкі!*

***Калантай.*** Брава, генерал! *(Пляскае ў далоні разам з Патоцкім).* Добрая песня. Чые словы?

***Касцюшка.*** Хутчэй за ўсё Якуба Ясінскага. Ён не толькі інжынер-палкоўнік, але і паэт выдатны. Клеафанс Агінскі таксама "Марш паўстання" стварыў! Можа, ён некалі і гімнам Польшчы стане.

***Калантай.*** І песні, і маршы — гэта вельмі добра. Але нам сёння найперш неабходна стварыць рэвалюцыйны ўрад — назавём яго Найвышэйшай нацыянальнай радай. На ёй і зацвердзім Вышэйшым і Адзіным кіраўніком паўстання і галоўнакамандуючым нацыянальных узброенных сілаў генерал-лейтэнанта Андрэя Тадэвуша Банавентуру Касцюшку. І чаму герою вызвольнай вайны ў Амерыцы не стаць нацыянальным героем рэспублікі двух народаў!

***Касцюшка.*** Клянуся, браты, што свой абавязак перад Айчынай выканаю да канца!

***Патоцкі.*** Я згодзен з табой, Гуга! Я рады за цябе, Тадэвуш!

***Калантай.*** Ужо цяпер трэба ствараць рэвалюцыйныя суды, камісіі парадку, дэпутацыі па матэрыяльным забеспячэнні паўстання, па забеспячэнні агульнай бяспекі паўстання, дэпутацыю грамадзянскай скарбніцы. Трэба ўжо сёння мець на ўвазе, што да паўстання і ў дзень паўстання неабходна будзе прымаць прысягу грамадзян на абарону Айчыны. Прымі пад увагу, Андрэй Тадэвуш, што кіраўніком паўстання ў Варшаве зацвердзім генерал-маёра Дзялынскага, у Вільні і ва ўсім Княстве — палкоўніка Ясінскага. Кракаў пад тваёю рукой — там і пачнеш, што і стане сігналам для іншых. Дэвіз паўстання сам прыдумай.

***Касцюшка.*** Я яго ў французаў пазычу: "Свабода, роўнасць і братэрства!"

***Калантай.*** А мы і не пярэчым. Ёсць з каго браць прыклад. У самы бліжэйшы час эміграцкі цэнтр падвядзе вынікі падрыхтоўкі да паўстання, адначасна вырышым дзяржаўна-праваўыя пытанні, прызначым дзень і час выступлення...

*Сцэна паволі зацямняецца.*

### X

*Кацярына ў сваім рабочым пакоі Увахсодзіць цырымонійнайстар.*

***Кацярына II*** *(адарваўшыся ад папераў).* Я вас не клікала, цырымонііймайстар!

***Цырымонійнайстар.*** Даруйце, ваша вялікасць... Іх сіяцельства віца-канцлер Остарман па неадкладнай... польскай справе...

***Кацярына II.*** Па польскай — кліч!...

*Цырымонійнайстар выходзіць, Остарман увахсодзіць.*

***Оставрман*** *(перапалохана).* Царыца-матухна, бяда!

***Кацярына II*** *(сурова).* Да справы, віца-канцлер!

***Остарман.*** Княства і Каралеўства падняліся...

***Кацярына II.*** Не разумею!...

***Остарман.*** Паўсталі... на рэвалюцыю пайшлі Каралеўства і Княства... супраць Расіі, супраць вашай манаршай вялікасці, царыца-матухна.

***Кацярына II*** *(у трывозе падымаецца з-за стала).* Якое можа быць паўстанне?! Якая рэвалюцыя?! Адкуль вы ўзялі?!

***Остарман.*** Вестуны, ваша вялікасць, і з Каралеўства і з Княства. Між іншым, Рыжска-Рэвельскі губернатар князь Рапнін і камандуючы войскамі ў Княстве барон Ігельстром таксама тут...

***Кацярына II*** *(не верыць пачутаму).* Як тут?!

***Остарман.*** Прымчаліся хутчэй за вестуноў... Так што, інфармацыя ў мяне рознабаковая, але, на жаль, даволі агульная...

***Кацярына II.*** Барона і князя сюды, неадкладна! Зараз жа!

*Остарман выходзіць і вяртаецца з Рэпніным і Ігельстромам. Яны ў дарожнай вопратцы, пры шпагах. Цырымонна кланяюцца і застываюць каля дзвярэй па стойцы "зважай", галаўныя ўборы трымаюць на руцэ.*

*(Остарману.)* Дакладвайце!

***Остарман.*** Слухаюся, ваша вялікасць. Ноччу з 23 на 24 сакавіка ў Кракаве выбухнула паўстанне, у якім узялі ўдзел шляхта, мяшчане і сяляне. Зараза адразу ж перакінулася ў Варшаву, Вільню і на ўсё Вялікае княства. Нашых войскаў аказалася мала не толькі ў Польшчы, Літве, Жамойці, але і ў Менскай губерні. Генерал-губернатар Тутальмін паведамляе, што на тэрыторыі ад ракі Друі да самай Прыпяці няма не толькі палкоў, але і вайсковых аддзелаў, якія б маглі абараніць нашу мяжу з недабітым Княствам. Ва ўсходняй Белай Русі, ці, як яны называюць, Літве, акрамя Магілёва, таксама няма вайсковых каманд. Таму бунт коціцца, як вогненны вал...

***Кацярына II.*** Хто ўзначаліў бунт?

***Остарман.*** У Княстве палкоўнік інжынерных войск нейкі Якуб Ясінскі, у Каралеўстве — генерал-лейтэнант Тадэвуш Касцюшка.

***Кацярына II.*** Той самы ганаровы грамадзянін Францыі?

***Остарман.*** І герой вызвольнай вайны ў Амерыцы. Менавіта ён у першы дзень паўстання і прынёс прысягу, у якой абавязуся *(паглядае у паперку)* карыстацца даверанай яму ўладай "для забеспячэння непарушнасці граніц, аднаўлення незалежнаці нацыі і ўстанаўлення ўсеагульнай свабоды".

***Кацярына II*** *(да Рэпніна і Ігельстрома).* Дажыліся генералы... Якая ганьба!...

***Остарман.*** Ён жа, Касцюшка, і "Акт паўстання" абнародаваў, які цяпер рассылаецца па гарадах і вёсках Рэчы Паспалітай і ўжо з'явіўся на далучаных да Расіі землях Княства. Якраз гэты Акт і раскрывае мэты і задачы паўстання. *(Вымае з папкі "Акт паўстання").*

***Кацярына II.*** Зачытайце князю і барону, а то гэтыя абаронцы імперыі хутчэй за ўсё і ў вочы яго не бачылі.

***Ігельстром.*** Ваша вялікасць, я сапраўды не бачыў гэтага Акта, але апошнім часам я нямала прачытаў розных антырасійскіх адозваў. І, між іншым, яшчэ ў лютым паведамляў графу Рапніну, што з'явіліся ў Літве некаторыя сляды змовы, што сведчаць аб падбухторванні тутэйшага краю да бунту.

***Кацярына II.*** Замаўчыце, барон! Вы з князем абодвы няўклюды і недарэкі, а не абаронцы Айчыны. Чытайце, Остарман, каб яны ўсвядомілі да якой ганьбы мы дажылі!

***Остарман.*** Хіба толькі фрагмент з "Універсала да ваяводстваў і паветаў правінцыі Вялікага княства Літоўскага і гарадоў вольных". "Слухай, Народзе Літоўскі, што табе гаворыць не кароль слабы са слабейшага яшчэ трону, не свавольны збор людзей, што нічога, акрамя марнага тытулу, не маюць, але спакойнае згуртаванне спагадлівых тваіх сыноў, якія доўга для вызвалення твайго працавалі тады, калі ты ўжо ў ім зняверыўся". *(Пераказвае.)* "Універсал" абвясціў галоўнымі прыярытэтамі паўстання "здабыццё вольнасці і роўнасці грамадзянскай", выгнанне расійскіх акупацыйных войскаў, вяртанне ўсіх анексаваных земляў Вялікага княства. Але гэта толькі кветкі, ягадкі ва ўпамянёным "Акце паўстання". *(Чытае.)* "Няма такой хлусні, прытворства і падману, якімі не зганьбілі б сябе гэтыя дзве выроды (расійская і пруская). Пад выдуманымі прычынамі, хлуслівымі і бясэнсоўнымі, карыстацца якімі пасуе адным толькі тыранам, дагаджаючы на самай справе толькі сваёй ненажэрнай сквапнасці і жаданню распаўсюдзіць панаванне тыраніі на суседнія народы... царыца, утойваючы свае далейшыя намеры, небяспечныя для еўрапейскіх дзяржаў, прысвяціла сябе варварскай і ненажэрнай помсце. Яна топча самыя святыя правы свабоды, бяспекі, недатыкальнасці асобы і маёмасці грамадзян..."

***Кацярына II*** *(б'е далоняй па стале, амаль істэрычна).* Хопіць! Змоўкніце, Остарман!

***Остарман.*** Даруйце, царыца-матухна...

***Кацярына II*** *(пасля паўзы, зусім спакойна).* Па зменлівасці, здрадніцтву і няўстойлівасці гэтага народа і па доказаннай яго зласлівасці да нашага народа, мы ў ім не будзем мець бяспечнага суседа інакш, як прывёўшы яго ў сапраўднае бяссілле і нямоглаcць... Барону Ігельстрому гэта задача не па сіле і ён адхіляецца ад пасады галоўнакамандуючага. Князь Рапнін, які на працягу шэрагу гадоў займаўся польскімі і вялікакняжацкімі справамі, і пад носам у якога выспеў бунт, страшнейшы за пугачоўшчыну, прызначаецца галоўнакамандуючым па яго бязлітасным задушэнні. Пры невыкананні майго загаду і сваіх абавязкаў князь Рапнін будзе пакараны горлам, як славяне рабілі гэта ў мінулыя часы.

Віца-канцлер, пазнаёмце галоўнакамандуючага з усімі данясеннямі як з Княства, так і з Каралеўства. Усе навіны з мяцежнага краю, якімі б яны ні былі, дакладваць неадкладна. Усё!...

*Рапнін, Ігельстром і Остарман выходзяць.*

*Сцэна паволі зацямняецца.*

### XI

*Варшава. Нарада ў пакоі Калантая. Акрамя гаспадара прысутнічаюць Касцюшка, Ясінскі, Агінскі, Патоцкі.*

***Калантай.*** Панове, перад справаздачай нашага паўстанцкага цэнтра Найвышэйшай нацыянальнай радзе, ёсць патрэба абмяняцца думкамі, падвесці першыя вынікі барацьбы з акупантамі. Слова кіраўніку паўстання, галоўнакамандуючаму нацыянальнымі ўзброенымі сіламі генерал-лейтэнанту Тадэвушу Касцюшку.

***Касцюшка.*** Як усім вядома, першы вынік — перамога Кракава, а следам за ёю — разгром 4 красавіка маскалёў пры Рацлавіцы пад Кракавам, які даў магчымасць развіццю і пашырэнню паўстання на Сандамірскае ды Люблінскае ваяводствы і Холмскую зямлю. 17 — 18 красавіка перамагла Варшава. 19-га быў абвешчаны Акт Мазавецкага ваяводства аб яго далучэнні да паўстання. (За Вільню і Вялікае княства палкоўнік Ясінкі сам скажа). Выдаў "Паланецкі універсал", якім гарантаваў апеку ўрада над сялянамі, аб'явіў сялян асабіста вольнымі, выклаў сваю канцэпцыю палітычнага і грамадскага развіцця Рэчы Паспалітай, падкрэсліўшы, што ідэалам грамадства, якое складаецца з вольных сялянаў-уладальнікаў зямлі, рамеснікаў, купцоў пры захаванні землеўладання, заснаванага на вольным найме работнікаў, з'яўляецца рэспубліка.

А яшчэ давярую, як магу, каб на мужыка абапіраючыся, шляхту не адтурхнуць, і паноў, што антырасійскае паўстанне падтрымалі, ад тых жа мужыкоў і шляхты абараніць. У расколе нацыі бачу небяспеку вялікую для ўсёй нашай вызвольнай справы. Паралельна з заняткам чыста ваенным, ствараю органы новай улады. Наколькі хапае сіл і магчымасцяў, унікаю ў справы паўстання ў Княстве. Але каб не падмяняць палкоўніка Ясінскага, дайце яму слова, можа, і пра мае родныя мясціны нешта скажа, бо, як кажуць, душою я і там...

***Калантай.*** Калі ласка, палкоўнік...

***Ясінскі.*** Вільня паўстала, як і павінна была паўстаць следам за Кракавам і Варшавай. Быў у мяне аддзел рэгулярнага войска крыху болей за 700 чалавек. Вайскоўцам падсабілі блізу 500 цывільных грамадзянаў. За дзве гадзіны бою горад быў у нашых руках. У палон разам з камендантам акупацыйнай залогі ўзялі больш за тысячу чалавек. Назаўтра ж стварылі Найвышэйшую раду Вялікага княства. Таго ж дня больш за 2800 месціча ў падпісалі Акт аб пачатку паўстання і прынялі прысягу на вернасць яму. Справе больш дэтальнай арганізацыі паўстанцкага руху прысвяцілі "Універсал да ваяводстваў і паветаў правінцыі".

***Патоцкі.*** Адозвы, акты, універсалы мы ўсе пісаць навучыліся... з баямі як?

***Ясінскі.*** Скажу і пра баі. Наш дэвіз: "Хто не з намі, той супраць нас!" 25 красавіка найвышэйшы Крымінальны суд вынес смяротны вырак гетману Княства Сымону Касакоўскаму як здрадніку і памагатаму расійскіх акупантаў. Павесілі на пляцы перад віленскай ратушай на "французскі манер" іншым у навуку.

***Патоцкі.*** Якабінцы...

***Ясінскі*** *(задзіросна).* Я і ёсць галоўны якабінец.

***Касцюшка.*** Нам бы цікавей ведаць не пра асобныя экзекуцыі над здраднікамі, а...

***Ясінскі.*** Разумею. Пакуль расійскія войскі і іх камандаванне знаходзіліся ў стане шоку, я скарыстаўся з ініцыятывы, якая поўнасцю была ў руках паўстанцаў, і рашыў разбіць амаль трохтысячны аддзел палкоўніка Дзеева, які пагражаў Вільні. На гэты час у мяне пад рукою было каля дзвюх тысяч рэгулярнага войска і з тысячу сялян-касінераў. Мы навязалі бой ворагу, які доўжыўся з 11-ці гадзін раніцы да самага вечара. Дзееў страціў забітымі больш за 170 вояроў, 322 мы захапілі ў палон.

*(Праця у наступным нумары.)*

Навінкі фанаграфіі

# СТАРЫ ОЛЬСА ЎСЁ МАЛАДЗЕЕ

**Стары Ольса "Шлях", Мн., 2003, БМАgroup**




Як ні круці, а ўсё ж жыцьцё й актыўнасьць ня проста словы-сінонімы, а ўзаемавызначальныя крытэры чалавечай сутнасьці. Калі сказаць прасьцей: хто актыўны, той і жывы. Лёс знакамітага беларускага world music гурта "Стары Ольса" – лепшая ілюстрацыя да гэтага тэзісу.

Калектыў прыйшоў на беларускую музычную сцэну, калі там ужо квітнелі "Kriwi", "Крама", "N.R.M" ... Цяжка было прабівацца навічкам ва ўмовах, калі нават мэтры не рызыкнуць прапанаваць на рынак штогод па альбому. Знакаміты бубнар Кірыла Шэвандо (экс-"Уліс") нават мне асабіста выказваўся неяк, што ў нашых эканамічных умовах народ ня здолее праглынуць такую процьму супольных, аўтарскіх, зборных альбомаў, таму актыўнасьць справакуе толькі абвал рынку.

"Стары Ольса" адказаў на такія перасьцярогі нібыта й парадаксальна. Як і большасьць заходніх супэрзорак, ён стаў прапаноўваць акурат штогод па альбому: "Келіх Кола" (2000), "Вір" (2001), "Verbum" (2002), "Шлях" (2003). Рынак на такі парадокс адказаў таксама парадаксальна: адразу ўзьнікла... не, не затаваранасьць рынку, а патрэба ў павелічэньні тыражоў. Аказваецца, народ даўно перасыціўся пануючым тут чужацтвам, але ня мог пераадолець дэфіцыт даверу да айчыннага музычнага прадукту, бо быў ён фрагмэнтарным і не гучаў у тэлерадыёэтэры.

Прарваць бар'ер акурат і ўдалося гурту "Стары Ольса", які ўдала трапіў на чарговы завіцень моды рэнэсансных традыцыяў і да таго ж адразу пачаў ствараць прадукт, які не патрабуе залішняй пашпартызацыі дзеля ягонай ідэнтыфікацыі: яны граюць модны цяпер у сьвеце new age, але беларускі паводле духу. Нават на замежных гастролях (у Польшчы, Нямеччыне, Латвіі) іхнюю музыку пазнаюць сходу – беларуская. І ня трэба штэмпель аб прапісцы ў пашпарце.

Альбом "Шлях" акурат і стаў вынікам шматлікіх гастрольных шляхоў калектыву. Гэта канцэртовы альбом. Зрэшты, назву яму дала аднайменная кампазыцыя, у якой дэкляруецца шматаблічнасьць шляхоў, якія выпадаюць у жыцьці нам і нашай радзіме.

Безумоўна, сапраўдных калекцыянэраў хвалюе пытаньне, наколькі гэты live recording паўтарае праграмы студыйных альбомаў. Канешне, такія паўторы ёсьць, хоць і няшмат: "Закляцьце" паходзіць з першага студыйніка, "Выправа" з другога і г.д. Але адрозьніваюцца гэтыя вэрсіі ня толькі своеасаблівасьцю атмасфэры, але й кардынальна іншым тэмпам. А старажытны беларускі танец "Руевіт" не засмучае слухача наяўнасьцю ажно чатырох вэрсыяў: двух студыйных, адной дзі-джэйскай і вось цяпер яшчэ й канцэртовай. Але задавальненьне параўноўваць іх мае толькі ўладальнік поўнай дыскаграфіі "Старога Ольсы".

А ў творах "Бранль" (сярэднявечны танец з "Віра") і "Конскі бранль" (фрагмэнт з выступу ў Нясьвіжскім замку) дык і ўвогуле больш адрозьненьняў, чым падабенстваў.

Уражвае мастацкая аздоба выданьня, якую зрабіў А.Чумакоў: калі раней дзеля стварэньня відарыса, адэкватнага настрою музыкі, выкарыстоўваліся рэпрадукцыі старажытных рукапіспаў і дрэварытаў, дык тут на тытул вынесена фота аўтэнтычнага беларускага дудара, аднаго з удзельнікаў гурта.

Часам музыку "Старога Ольсы" параўноўваюць з творчасьцю славутага брытанскага дуэта "Blackmore's Night", але ня трэба забываць, што "Blackmore's Night" выкарыстоўвае ў сваіх сярэднявечных экспэрымэнтах звычайныя акустычныя гітары, а "Стары Ольса" здольны асэнсавана пераняць спадчыну беларускіх традыцыяў лютні, дуды, гусьляў і г.д. Музыка беларускага калектыву больш адэкватна адпавядае стылістычнай атмасфэры часу

Актуальны склад "Старога Ольсы" наступны: І.Кубліцкі, К.Радзівілава, А.Апановіч, згаданы А. Чумакоў на чале з апантаным захавальнікам нашых глыбінных гістарычных традыцыяў ды эўрапейскага кантэксту нашае культуры Зьміцерам Сасноўскім.

Без альбома "Шлях" дыскаграфія "Старога Ольсы" ў вашай калекцыі будзе няпоўнай, а да таго ж гэта яшчэ й унікальны ўзор якаснай, эмацыйнай, жывой канцэртовай фанаграфіі.

*Вітаўт МАРТЫНЕНКА.*

# Крыжаванка "Адновім мову"

*Склаў Мікола Ворчык*



**У кожны сегмент запісваюцца дзве літары па часавой стрэлцы, пачынаючы ад сегмента з меткай.**

1. Тып мнагагранніка. 2.Адна з умоўных ліній на геаграфічных картах, глобусах. 3.Адукаванасць, выхаванасць. 4.Вялікі марскі карабель, звычайна вайсковы. 5.Невялікі гармонік. 6.Работнік друкарні ці выдавецтва, які выпраўляе памылкі друку. 7.Сукупнасць псіхічных асаблівасцяў чалавека, якія выяўляюцца ў яго паводзінах. 8.Аддзел фізікі, які вывучае рух і дзеючыя пры гэтым сілы. 9.Ганчарная вытворчасць. 10. Невялікая герметычная ёмістасць для захоўвання і траспарціроўкі вадкасцяў. 11.Перасяленне мноства людзей на новае месца жыхарства. 12.Невялікі лёгкі будынак у садах, парках. 13.Дзелавая папера, якая служыць доказам або пацвярджэннем факта. 14.Назва двух штатаў (паўднёвага і паўночнага) у ЗША. 15.Літарадрукавальны апарат, які перадае тэкст на адлегласць. 16.Вялікі музычны твор для хору, спевакоў-салістаў і аркестра. 17.Прадукт, атрыманы шляхам згушчэння сокаў ягад, пладоў. 18. Пацвярджальны факт, доказ, довад. 19.Вадкае лякарства з сумесі некалькіх рэчываў. 20.Вузкі паток вадкасці ці газу. 21.Месца падрыхтоўкі і разгортсання ваенных падзей. 22. Напітак з сумесі розных спіртных напояў з дабаўленнем цукру і вострых прыправў. 23. Даўнейшая чатырохколавая, звычайна крытая дарожная павозка. 24. У заходніх краінах: мнагамесная карэта для перавозкі пасажыраў і пошты. 25.Навука аб прыгожых дзеяннях, аб прыгажосці. 26.Абвінаваўца ў судовым працэсе. 27.Прамова, сказаная без папярэдняй падрыхтоўкі. 28. Аб'ездчык верхавых коней. 29.Падсвядомае чуццё, звязанае з прадбачлівасцю, загадкай. 30.Паўзун, які мяняе афарбоўку скуры пры небяспецы. 31.Сістэма поглядаў. 32.Гандлёвы пасёлак еўрапейскіх купцоў у некаторых паўночных ці іншых аддаленых краінах (стар.) 33.Навука аб раслінах. 34.Узбуджэнне ваганняў аднаго цела ваганнямі другога з той жа частатой. 35.Вострая, непрымірымая спрэчка. 36.Круг дзеянняў для выканання. 37.Узвышаная і ўмацаваная частка старажытнагрэчаскага горада. 38.Выпуклы вобразатвор з нізкім рэльефам на плоскай паверхні. 39.Аб'яднанне дзяржаў з пэўнай мэтай. 40.Кавалерыйскае падраздзяленне. 41.Апрацоўка і падрыхтоўка рукапісу да друку. 42.Уступ да музычнага твора. 43.Ліст не падпісаны яго аўтарам. 44.Процілегласць, проціпастаўленне. 45.Тонкі пшанічны блін. 46.Фармацэўт з правам прыгатавання і продажу лякарстваў у аптэцы. 47.Вайсковае падраздзяленне – частка палка. 48.Скульптурны твор з высокім рэльефам на плоскай паверхні. 49.Ручная агнястрэльная зброя. 50.Ярлык, наклейка на тавары, упакоўцы з некаторымі звесткамі аб іх. 51.Навуковая або філасофская тэорыя, сістэма. 52.Спецыяльнае зернесховішча з механізацыяй вытворчых працэсаў. 53.Прадмет для агляду ў музеі ці на выстаўцы. 54. Раздзел біялогіі, які вывучае спадчыннасць і зменлівасць арганізмаў. 55.Найвышэйшае вучонае званне. 56.Разлік прыбыткаў і страт. 57.Памочнік выкладчыка пры правядзенні навуковых ці навучальных работ. 58.Салдацкае вайсковае званне. 59.Чалавек, які рыхтуецца да навуковай ці выкладчыцкай дзейнасці. 60.Складны ножычак. 61.Штучны вадаём або шкляная воданапоўненая ёмістасць для рыб, водных жывёл і раслін. 62.Газанапоўнены лятальны апарат. 63.Частка твора, закончаная па сэнсу. 64.Калекцыя засушаных траў, раслін, кветак. 65.Працэс набыцця і засваення ведаў; навучанне. 66.Дзелавы пісьмовы дагавор, пагадненне. 67.Даўнейшая назва чарніла. 68.Старая назва буквара. 69.Адпраўшчык паштовай пасылкі, ліста, бандэролі. 70.Чырвонае фарбавальнае рэчыва, якое здабываецца з карэння марэны ці робіцца штучна. 71.Маладое сцябло расльны. 72.Шырокая, вольная прастора. 73.Лясная блакітная кветка, якая расце ранняй вясной. 74.Вучонае званне ў вышэйшых навучальных установах. 75.Штучнае абвадненне засушлівых зямель. 76.Сярэдні конь, запрэжаны ў тройцы. 77.Род цвёрдых цукерак. 78.Рабочы орган жатнай часткі ўборачных машын. 79.Чацвёртая частка круга. 80.Пункт, месца пасадкі і высадкі пасажыраў на вуліцах і дарогах. 81.Рэзкая працілегласць. 82.Дакумент, які пацвярджае пэўны факт, здарэнне. 83.Прамежак, перальнак, адлегласць. 84.Прыбор, які ператварае гукавыя хвалі ў электрычныя. 85.Шкляны лабараторны посуд. 86.Дубальтоўка для стральбы шротам. 87.Артылерыйскі снарад, набіты круглымі кулямі. 88.Дрыжанне, хістанне. 89.Збіральнік і прадавец старадаўніх рэчаў. 90.Дапаўненне, якое часткова змяняе прынятае раней рашэнне. 91.Народнае гулянне – маскарад з танцамі і гульнямі. 92.Памяшканне для сумеснага пражывання людзей, якія разам працуюць ці вучацца. 93.Узровень разумовага развіцця чалавека. 94.Спрэчкі ў час дыскусіі. 95.Прымяненне ведаў і навыкаў у жыцці. 96.Колцападобны булачны выраб. 97.Спецыяліст, які кіруе складаным тэхналагічным працэсам. 98.Хірургічны спосаб лячэння хвароб. 99.Кароткі пераказ зместу твора з агульнай яго характарыстыкай. 100.Малодшая вучоная ступень.

*(Адказы можна праверыць на ст. 9.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 02. 2004 г. Замова № 204.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
***Кошт у розніцу:*** 295 руб. (у Менску - 310 руб.)